◂ № 6 (375) ◂ 14 лютага ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ**

Стар. 6

**ЯКОЕ ТАМ БЕСПРАЦОЎЕ?**

Афіцыйныя падлікі — гэта прапаганда. 0,5% — гэта тыя людзі, якія стаяць на ўліку ў цэнтрах занятасці. Былы міністр працы Аляксандр Сасноў нездарма называе гэты паказчык паказчыкам не беспрацоўя, а яўкі беспрацоўных для рэгістрацыі

Стар. 5

**СОЧЫ СУПРАЦЬ МАЙДАНА**

Паспрабуем знайсці адказы на пытанні, як сочынская алімпіяда ўспрымаецца на Майдане і якія наступствы Гульні будуць мець для перспектывы супрацьстаяння ўлады і апазіцыі?

Стар. 12

**ЯК З БЕЛАРУСАЎ РАБІЛІ ПАЛЯКАЎ**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ХТО РАСКОЛВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСТВА?**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

З НАГОДЫ

## НЕ ПЕРАШКАДЖАЙЦЕ!

Сяргей ПУЛЬША

**Беларуская каманда не можа пахваліцца вялікімі поспехамі на Алімпіядзе ў Сочы. Адзінае дасягненне — золата біятланісткі Дар'і Домрачавай. Не дапамагаюць спартоўцам ані падрыхтоўка, ані прысутнасць на гульнях самога Аляксандра Лукашэнкі. Апошняе, можа, нават і перашкаджае.**

Беларускіх алімпійцаў у Сочы інструктуе сам Аляксандр Лукашэнка. Разам з маленькім Колем ён праводзіць перадстартавыя «чайныя цырымоніі». Лукашэнка заклікаў біятланістаў расслабіцца і думаць толькі пра гонку: «Спакойна выходзь і страляй. Не мітусіцеся, гэта першая гонка. Галоўнае — не мітусіцца. Калі хочаце, я магу там, дзе вось мне трэнер скажа, стаяць на мяжы, сцягам буду размахваць. А хочаце — буду бегаць, дзе-небудзь тудысюды, праз усю трасу...» — настаўляў Аляксандр Рыгоравіч нашых атлетаў перад стартам.

Насамрэч, такія сустрэчы больш перашкаджаюць спартоўцам і не даюць сканцэнтравацца. Увіцце самі: сканцэнтраваліся вы для выканання пэўнага задання, усё прадумалі, усё распланавалі. І тут у пакойчык заходзіць сам Аляксандр Рыгоравіч і прапануе расслабіцца ды выпіць гарбаткі...

Альбо едзеце вы па лыжні, а тут, нібы чорная котка, праз усю трасу перад вамі праскоквае кіраўнік дзяржавы...

Не, канешне, падбадзёрванне спартоўцаў, іх заахвочванне, павінна быць. Але яно не павінна пераходзіць пэўную мяжу. Калі кіраўнік краіны займаецца тым, што дае парады нашым, напрыклад, біятланістам, то гэта ўжо ўспрымаецца неяк недарэчна. Больш за тое, гэта можна расцаніць як недавер да трэнераў. Тут ужо трэба разумець, што і трэнеры, і гульцы, і спартовыя ўрачы, і ўсе, хто забяспечвае зборную, павінны быць адной камандай. І калі да аднаго складніку існуе хаця б бачнасць недаверу — гэта падрывае «маральныя ўстоі» ўсіх, а не толькі трэнераў.

Аляксандру Рыгоравічу трэба было б абмежавацца тым, што ён ужо сказаў у вітанні сябрам спартовай дэлегацыі на Алімпіядзе ў Сочы: «Усё да дробязяў было прадугледжана і зроблена — цяпер засталося толькі кожнаму з вас прыкласці намаганні, каб забяспечыць паспяховыя выступленні на алімпійскіх спаборніцтвах». А потым адысці ў цень і не адсвечваць.

Трэба было б падумаць над іншай праблемай. Праблема гэтая палягае ў тым, што ўсе нашыя высілкі ў развіцці зімовых відаў спорту не даюць эфекту. Тое, што ў Беларусі гэтыя віды спорту развітыя — глабальны прапагандысцкі міф.

> За гады незалежнасці Беларусь атрымала тры медалі ў Ванкуверы. Па два — у Ліліхамеры і Нагана. Па аднаму — у Солт-Лэйк-Сіці і Турыне





У зімовых відах спорту «краіна лядовых палацаў» ніколі не была моцная. Нашыя выступленні на зімовых алімпіядах ніколі не адрозніваліся выніковасцю. Не верыце? Можаце зазірнуць на сайт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі. Там бачна, што максімум, што мы заваёўвалі за гады незалежнасці краіны на зімовых алімпійскіх гульнях, — тры медалі ў Ванкуверы ў 2010 годзе. Па два медалі ў нас былі ў Ліліхамеры ў 1994 годзе і ў Нагана ў 1998-м. У Солт-Лэйк-Сіці ў 2002 годзе мы займелі адзін бронзавы медаль, і адзін срэбны — у 2006-м у Турыне.

Зыходзячы са статыстыкі, чакаць нейкага раптоўнага прарыву ад нашых спартоўцаў зімовых відаў не даводзіцца. Калі пару медалёў завацюць — гэта ўжо будзе поспех.

Гэта значыць, што ўся створаная «пад зіму» інфраструктура, кшталту даражэзных лядовых палацаў, зробленая не тое што дарма. Яна пабудаваная не для спартоўцаў. У «лядовых палацах» зручна праводзіць розныя шоў, кшталту «Цырку Нікуліна на лёдзе» альбо «Лядовага шоў Авербуха». Яшчэ ў іх зручна даваць мегаканцэрты сусветных суперзорак кшталту «Дэпеш Мод», «Рамштайн» альбо Мілен Фармер. Ну і, адначасова, выдаваць канькі напракат тым, хто хоча размяцца.

Да вялікага спорту, як паказвае практыка, лядовыя палацы маюць мала дачынення. Нягледзячы на іх аграмадную па Беларусі колькасць, мінскае «Дынама» не трапіла ў плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі, а зборная Беларусі не змагла прайсці кваліфікацыю на Алімпіяду ў Сочы.

Вось над гэтым трэба падумаць Аляксандру Лукашэнку. Ну і, можа, заняцца іншымі справамі. Як паведамляла прэс-служба Аляксандра Рыгоравіча, ягоная вандроўка ў Сочы — не толькі адпачынак. Ён павінен правесці «шэраг міжнародных сустрэчаў», а таксама абмеркаваць пытанні развіцця інфраструктуры беларускіх аб'ектаў у Сочы і Чырвонай Паляне.

Адна такая сустрэча ўжо адбылася: на гарналыжным схіле Аляксандр Лукашэнка пабачыўся з Уладзімірам Пуціным і Дзмітрыем Мядзведзевым. Сюжэт пра іх сустрэчу паказаў тэлеканал «Расія 1». З гэтага матэрыялу вынікае, што размова ішла выключна пра горныя лыжы і пра тое, хто лепш на іх катаецца. Аляксандр Рыгоравіч мякка намякнуў, што чакаў расійскіх калегаў на гары тры дні. За Мядзведзева заступіўся Пуцін — маўляў, Дзмітрый Анатольевіч у горных лыжах пачатковец, у той час як Аляксандр Рыгоравіч — ужо амаль прафесіянал. Вось і ўся «міжнародная сустрэча».

Так што Аляксандру Лукашэнку ёсць над чым падумаць і ёсць чым заняцца ў Сочы. Што рабіць спартоўцам, яны ведаюць і самі, тым больш, што беларуская ўзнагарода за алімпійскае золата — 150 тысяч долараў. Больш даюць толькі Казахстан (185 тысяч еўра) і Азербайджан (378 тысяч еўра). Прычым, відавочна, што Баку аб'явіў такое высокае ўзнагароджанне, таму што шанцы яго выйграць — мізэрныя.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. РЫГОР ГРЫК ЗБІРАЕЦЦА СУДЗІЦЦА З ГАРВЫКАНКАМАМ

**Грамадскі актывіст Рыгор Грык падаў скаргу ў суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы на неправамоцныя дзеянні гарадскіх чыноўнікаў, якія не толькі незаконна адмовілі яму ў правядзенні пікета, але і несвоечасова паведамілі пра забарону.**



Рыгор Грык хацеў правесці 26 студзеня пікет пад назвай «Дзеянні ўлады і законы РБ — пад грамадзянскі кантроль», каб прыцягнуць увагу грамадскасці да несвоечасовага і недастатковага рэагавання чыноўнікаў на звароты і прапановы людзей. Але ў выніку атрымалася абсурдная сітуацыя: арганізатар пікета супраць несвоечасовага рэагавання чыноўнікаў на звароты грамадзян сам своечасова не атрымаў адказ з гарвыканкама.

«Раней адказы гарвыканкама на мой хатні адрас рэгулярна прыходзілі па пошце заказным лістом, таму і на гэты раз я хадзіў на паштамт, але там сказалі, што ніякіх лістоў мне не было», — паведаміў Рыгор Грык.

Скарга грамадскага актывіста ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру не дала плёну, таму Рыгор Грык падаў заяву ў гарадскі суд. Ён просіць суд прызнаць рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама ад 15.01.2014 г. аб адмове яму ў правядзенні пікета 26 студзеня 2014 года ў заяўленым месцы незаконным, што парушае артыкулы 33 і 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. НАБІРАЕ АБАРОТЫ ГРАМАДЗЯНСКАЯ КАМПАНІЯ «БАРАНІ СВАЁ»

**Уласнікі прыватных дамоў, а таксама занепакоеныя ўшчыльненнем забудовы грамадзяне, імкнуцца бараніць свае правы супольна.**

Паводле аднаго з каардынатараў кампаніі «Барані сваё» Кастуся Жукоўскага, галоўнае — гэта навучыць жыхароў больш актыўна бараніць свае правы на прыватную ўласнасць.

«Паўсюль людзей разводзяць нахабна і злачынна. Прыходзяць і гавораць, што маюць адпаведную пастанову. Раз прыйшлі, два… І чалавек урэшце пагаджаецца. Чалавека фактычна бяруць змораМ. Гэтая ініцыятыва падняла вялікі пласт праблемаў у грамадстве. Яны і раней былі відавочныя, але пра іх мала хто гаварыў. Калі людзі і надалей будуць самі па сабе, то нас задушаць. А калі мы збяромся разам, то мы пераможам», — лічыць Жукоўскі.

Адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці кампаніі «Барані сваё» стане перагляд генеральнага плана развіцця Гомеля да 2030 года, які практычна не пакідае шансу на захаванне гістарычнага аблічча горада.

**Беларускае Радыё Рацыя**

### ВІЦЕБСК. АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА АДМОВІЛАСЯ АД ПАДПІСКІ НА НЕЗАЛЕЖНЫЯ ГАЗЕТЫ

**У гэтым годзе наведнікі Віцебскай абласной бібліятэкі імя Леніна не змогуць чытаць свежыя нумары «БелГазеты», «Народнай волі» і «Нашай нівы», таму што бібліятэка не стала афармляць падпіску на 2014 год на гэтыя выданні.**



Гэтую інфармацыю «Народным навінам Віцебска» пацвердзіў дырэктар бібліятэкі Аляксандр Сёмкін. Паводле ягоных слоў, размова ідзе пра простае скарачэнне бюджэтнага фінансавання. У той жа час на 2014 года абласная бібліятэка выпісала больш найменняў перыядычных выданняў, чым на 2013-ы. Пры гэтым спадар Сёмкін кажа, што калі рэдакцыі самі стануць дасылаць свежыя нумары, цытуем, «ніхто іх выкідаць не будзе». Хто прыняў рашэнне пра скасаванне падпіскі, ён паведаміць не змог.

Чытачы «ННВ» паведамляюць, што такая ж сітуацыя склалася ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Горкага — тут таксама не выпісалі на 2014 год «БелГазету», «Народную волю» і «Нашу ніву».

Можна з пэўнай верагоднасцю сказаць, што размова ідзе не пра рашэнні кіраўніцтва асобных бібліятэк, а пра цэнтралізаваную кампанію па абмежаванні падпіскі на незалежныя выданні. Улічваючы абласное падпарадкаванне бібліятэкі Леніна, такі загад, калі ён быў, мог паступіць толькі з абласных органаў кіравання.

**news.vitebsk.cc**

ПРАЕКТ

# ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

Сяргей ПУЛЬША

**11 лютага ў памяшканні амбасады Венгрыі ў Беларусі адбылася прэзентацыя праекта, які фінансуецца Еўрасаюзам і павінен палепшыць жыццё некаторым людзям, вызваленым з месцаў зняволення.**

Называецца праект «Садзейнічанне інтэграцыі асобаў, якія вызваліліся з месцаў зняволення, у Беларусі». Гэты праект рэалізуецца Венгерскай экуменічнай службай дапамогі і Міжканфесійнай місіяй «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне». І, як было сказана, на 80% фінансуецца ЕС.

Амбасадар Венгрыі Вімлаш Сіклавары адзначыў, што не толькі ЕС заклапочаны лёсам беларускіх вязняў. Венгерская экуменічная служба дапамогі знайшла ў Беларусі партнёра — «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне», і атрымала ад МЗС Венгрыі на гэтую праграму 8 мільёнаў форынтаў.

Кіраўніца прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора адзначыла, што гэты праект — не першы. Напрыклад, ёсць праект па рэінтэграцыі былых асуджаных у грамадства, які праводзіць Міжнародны Чырвоны крыж у супрацоўніцтве з Беларускім Чырвоным крыжам. Яшчэ ЕС падтрымлівае аналагічны праект па медычнай дапамозе людзям у турмах. Але і тут — медычная дапамога аказваецца толькі тым зняволеным, хто вызначаны як ВІЧ-інфекаваны. Новы ж праект будзе шырэйшым.

Па словах старшыні Міжканфесійнай місіі «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне» Мікалая Матрунчыка, найперш праект павінен збіць пэўную «зэкафобію», якая існуе ў беларускім грамадстве. «Ёсць адпрэчванне грамадства тым людзям, якія адбылі заключэнне. Іх горш прымаюць на працу, яны менш канкурэнтаздольныя на рынку працы, у іх праблемы ў сем'ях, і некаторым нават няма куды вяртацца», — адзначыў Матрунчык.

Амаль адзіны прытулак, дзе былы зняволены можа адчуць сябе больш-менш спакойна, — гэта царква. Таму праект разлічаны на шчыльнае супрацоўніцва ў справе рэабілітацыі былых зняволеных як царквы, так і дзяржавы. Дзяржаўныя супрацоўнікі будуць скіраваны на сацыяльную рэабілітацыю адседзеўшых, а царква — на духоўную рэабілітацыю. Плюс гэтай сістэмы — у тым, што тыя былыя зняволеныя, якія патрапяць у праграму, па-першае, атрымаюць новую прафесію, а па-другое — першае афіцыйнае працоўнае месца.

Як гэта будзе працаваць? Канешне, праца будзе весціся з тымі, хто, з аднаго боку, цвёрда стаў на шлях выпраўлення, а з іншага — знаходзіцца ў самым складаным становішчы. У якіх няма ні працоўнай спецыяльнасці, ні жытла.

Найлепшым спосабам будзе пэўная, як сказаў Матрунчык «экатэрапія». У Гродзенскай вобласці пры Жыровіцкім манастыры будзе створаная пляцоўка па пчалярстве. У Віцебскай вобласці таксама на базе адной з манастырскіх гаспадарак плануецца стварыць невялічкую «ферму» па вырошчванні лекавых і кулінарных зёлак. А ў Гомельскай вобласці праект будзе скіраваны найперш на жанчын, якія таксама часам трапляюць за краты. «Гэта будзе парніковая гаспадарка па вырошчванні кветак, садавіны і гэтак далей», — сказаў Матрунчык. І гэтая гаспадарка таксама будзе супрацоўнічаць з прыходам альбо манастыром.

Праграма не зможа дапамагчы ўсім, хто штогод вызваляецца з калоніяў і турмаў. Але, як мяркуе Матрунчык, ад некалькіх дзясяткаў да некалькіх соцень былых зняволеных атрымаюць першае працоўнае месца на волі.

ЮБІЛЕЙ

# ЛЕАНІДУ ЛЫЧУ — 85

Марат ГАРАВЫ

**Каб павіншаваць беларускага навукоўца і грамадскага дзеяча, доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Лыча з 85-годдзем, у акадэмічнай бібліятэцы імя Якуба Коласа сабраліся ягоныя родныя, калегі і сябры.**



Вядомы беларускі мастак Алесь Цыркуноў падараваў гісторыку ягоны партрэт, а пляменніца навукоўца, выкладчыца Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тацццяна Цыбульская праспявала неўміручую песню Сямёна Рака-Міхайлоўскага на верш Максіма Багдановіча «Зорка Венера», а таксама старадаўнюю беларускую народную песню «Чабарок».

Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі Леаніду Лычу свае падарункі — кніжную выставу «У гісторыі шукаць будучае» і буклеты са спісам асноўных прац навукоўца, артыкулаў гісторыка, а таксама літаратуры аб ягоных жыцці і дзейнасці.

Леанід Лыч падзяліўся сваімі ўспамінамі пра жыццё, адзначыў прыгажосць сваёй роднай вёскі Магільнае, што на Уздзеншчыне ў Мінскай вобласці, дзе ў 1930-я гады гаворка была цалкам беларуская, а святочныя строі сялян — спрэс бел-чырвона-белымі. Глыбока і пранікнёна спадар Леанід гаварыў пра працу земляроба, пра родную зямлю і мову, пра трагедыю вайны і паваенны русіфікацыі беларусаў.

І нават служба ў падраздзяленні Міністэрства ўнутраных спраў, якое ахоўвала палітвязняў Азёрлагу (адна з частак ГУЛАГу каля Тайшэту ў Іркуцкай вобласці Расіі), не зламала гэтага годнага і высакароднага беларуса.

Ён не пісаў рапарты аб звальненні, не спіўся і не скончыў жыццё самагубствам, як некаторыя з саслужыўцаў. Размовы з адукаванымі, выхаванымі і інтэлігентнымі землякамі — вязнямі сібірскіх лагераў — дазволілі маладому беларусу спазнаць свет і навучылі яго глыбокай павазе да ўсяго нацыянальнага.

Падчас службы ён папаўняў свае веды пра палітычную сітуацыю ў краіне ў гады масавых рэпрэсій эпохі сталінізму, а пасля вяртання ў родную Беларусь прысвяціў сваё жыццё даследаванню яе трагічнага і слаўнага мінулага, у тым ліку гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння.

Нагадаем, што Леанід Лыч нарадзіўся 8 лютага 1929 года. З 1962 году працуе ў Інстытуце гісторыі НАН, даследуе пытанні сацыяльна-класавых адносін у савецкі час, гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку ў Беларусі ў XIX–XX стагоддзях, а таксама міжнацыянальныя адносіны на Беларусі ў XX стагоддзі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1967), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 5, 1975), «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» (т. 4, 1987), «Нарысаў гісторыі Беларусі» (ч. 2, 1995). У 1992–1996 гадах узначальваў Тапанімічную камісію пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вядомы сваёй вострай публіцыстыкай у незалежнай прэсе па пытаннях нацыянальнай культуры і моўнай палітыкі на Беларусі.

Рэдакцыя **НЧ** віншуе Леаніда Лыча з 85-годдзем і жадае яму новых поспехаў у працы па вывучэнні роднай гісторыі, а таксама моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# САМІ З ВУСАМІ!

*Сяргей САЛАЎЁЎ*




**На мінулым тыдні ўсе раптоўна заклапаціліся праблемай правоў чалавека. Так ужо атрымалася, што напачатку сакавіка будзе чарговая сесія Савета ААН па правах чалавека. Гэта абвастрыла звыклую рыторыку ў стылі «сам дурань» паміж Беларуссю і Еўропай.**

Першым выступіў Савет міністраў замежных спраў ЕС. У прынцыпе — даўно звыклая справа, бо беларускія ўлады пра правы чалавека імкнуцца як мага больш маўчаць. З прынцыпу «не кранай ліха, пакуль спіць ціха». І не кранаюць — да таго часу, пакуль іх не вымушаюць гэта зрабіць.

Дык вось, Савет міністраў замежных спраў ЕС прыняў адмысловую заяву, у якой гаворыцца пра сітуацыю ў свеце. У дакуменце падкрэслена асаблівая заклапочанасць у сувязі з неспрыяльным становішчам з правамі чалавека ў шэрагу краін, перш за ўсё ў Сірыі. Там сітуацыя ўяўляе сабой «самы востры гуманітарны крызіс у сучаснай гісторыі». Савет ЕС зноў заклікаў усе бакі канфлікту, перш за ўсё кіруючы рэжым, спыніць гвалт і парушэнне міжнароднага гуманітарнага права. Адзначаючы, што вінаватыя ў злачынствах павінны панесці адказнасць, ЕС заклікаў забяспечыць хутчэйшы доступ у краіну міжнароднай камісіі па расследаванні.

Таксама ЕС заклікае міжнародную супольнасць звярнуць увагу на «сур'ёзныя і сістэматычныя парушэнні правоў чалавека» ў КНДР і таксама расследаваць іх. У дакуменце ўказана на трывожнае становішча з правамі чалавека ў Іране, Шры-Ланцы, М'янме, Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы, Паўднёвым Судане, Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга.

> Ілюстрацыя нашай незалежнасці ў праявах правоў чалавека: суддзя Таццяна Емельяновіч «з унутраных перакананняў» пастанавіла «дэпартаваць» з Беларусі кнігу Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай»

Пра Беларусь там было сказана між іншым. Хіба толькі тое, што Савет ЕС мае намер запатрабаваць у ААН «хутчэйшага і безумоўнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітвязняў у Беларусі».

Якім чынам гэта зробіць ААН, не паведамлялася. Больш за тое, павінны былі б ведаць, што «сінявокая» ніякага дыктату не пацерпіць, і нават не супрацоўнічае са спецдакладчыкам па Беларусі ў ААН Міклашам Харашці, бо такога не прызнае. Але нават такое ўскоснае краканне нашай краіны выклікала вокамгненную рэакцыю беларускага Міністэрства замежных спраў. Як яшчэ адно пацверджанне прымаўкі пра тое, на кім шапкі гараць.

Міністэрства замежных спраў Беларусі падрыхтавала даклад аб парушэнні правоў чалавека ў краінах ЕС, ЗША і Канадзе, паведаміў журналістам начальнік галоўнага ўпраўлення шматбаковай дыпламатыі МЗС Беларусі Юрый Амбразевіч.

«У свеце няма дзяржаў, якія былі б ідэальныя ў гэтым пытанні», — заявіў Амбразевіч. У сувязі з гэтым ён заявіў пра неразуменне ў сувязі з наяўнасцю «выбарчага падыходу» да Беларусі па гэтым пытанні.

Даклад «Найбольш рэзанансныя выпадкі парушэння правоў чалавека ў асобных краінах свету: 2013» з'яўляецца другой па ліку працай МЗС па гэтай тэме. Першы даклад быў выдадзены год таму. Як растлумачыў Амбразевіч, даклад «тычыцца тых краін, якія ўвялі санкцыі ў дачыненні да Беларусі, заснаваныя на ацэнцы сітуацыі з правамі чалавека ў краіне». У дакуменце фігуруюць 21 краіна ЕС, а таксама ЗША і Канада. У ім, па словах начальніка галоўнага ўпраўлення, узгаданыя «выпадкі, якія мелі найбольшы рэзананс для грамадска-палітычнага жыцця гэтых краін». У прыватнасці, растлумачыў ён, згаданыя выпадкі дыскрымінацыі, расавай варожасці, разгону масавых мерапрыемстваў.

«Дзеянні шэрагу замежных дзяржаў у дачыненні да Беларусі наносяць рэальную шкоду краіне, яе прадпрыемствам і грамадзянам. Гэтыя краіны лічаць, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі знаходзіцца не ў лепшым стане, і на гэтай падставе лічаць сябе маючымі права абмяжоўваць палітычныя, ведамасныя кантакты, уводзіць забарону на доступ на іх рынкі беларускіх тавараў, весці інфармацыйную дыскрэдытацыю нашай дзяржавы», — падкрэсліў Амбразевіч.

Жахі «заходняга ладу жыцця» МЗС распісаў на 70 старонках. Канешне, чытаючы даклад, задумваешся, а ці ёсць у нас тыя парушэнні? Канешне, у нас амаль усё ёсць, і дыскрымінацыя па нацыянальнай прыкмеце таксама (узгадаем, як улады душылі, ды недадушылі Саюз палякаў). Але ў дакладзе шмат месца ўдзелена «расавай варожасці», якой у «сінявокай», падаецца, няма. Няўжо мы пра Беларусь нешта не ведаем?

І яшчэ адна цікавая дэталь. МЗС Беларусі шмат увагі надае балючаму пытанню «свабоды мірных сходаў» і разгону дэманстрантаў у Еўропе ды ЗША. Паўсюдна кажацца, што паліцыя прымяняла слезацечны газ і гумовыя кулі. Але лічбы затрыманых падчас «масавых беспарадкаў» нейкія несур'ёзныя — да 300 чалавек. У нас столькі затрымаць могуць на шараговым мітынгу, не кажучы ўжо пра розныя «плошчы», дзе лічбы затрыманых перавальвалі за тысячу. Дый нешта ў дакладзе няма словаў пра тое, што затрыманыя ці арыштаваныя падчас еўрапейскіх мітынгаў і дэманстрацыяў панеслі суворае крымінальнае пакаранне ў выглядзе шматгадовага пазбаўлення волі. Нейкае абыякавае ў Еўропе стаўленне да дэманстрантаў.

І, як ілюстрацыя нашай незалежнасці ў праявах правоў чалавека, суддзя Ашмянскага раёна Таццяна Емельяновіч «з унутраных перакананняў» пастанавіла «дэпартаваць» з Беларусі кнігу літаратуразнаўчых артыкулаў і эсэ «сядзячага» праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай».

Справа ў тым, што мытнікі забаранілі ўвоз кнігі ў Беларусь і скіравалі яе на экспертызу наконт «экстрэмісцкай літаратуры». Прайшло дзве экспертызы, і абедзве яны былі прызнаныя незаконнымі і непрымальнымі для суда. Аднак, па «ўнутраным перакананні» суддзі, якая гэтай кніжкі нават і не чытала, 40 асобнікаў кнігі падлягаюць адпраўцы назад у Літву.

Як у савецкія часы: «Я Пастарнака не чытаў, але яго асуджаю»…

Ёсць яшчэ адзін матычык, які павінен, на маю думку, быць згаданы ў дакладзе МЗС у якасці станоўчага прыкладу ад беларускага боку. Раніцай 9 лютага ў Камянецкім раёне ў 300 метрах ад лініі беларуска-польскай мяжы пагранічнікі выявілі цэлы табун коней. Пры праверцы высветлілася, што сляды 15 коней парушальнікаў вядуць у Польшчу, дзе недалёка ад мяжы знаходзіцца фермерская гаспадарка. «Відаць, коні зламалі агароджу і зайшлі на тэрыторыю Беларусі. Пасля рашэння юрыдычных фармальнасцяў табун перададзены польскаму боку», — адзначылі пагранічнікі.

Калі ў Беларусь збягаюць польскія коні, ці так дрэнна ў нас з правамі як жывёлаў, так і чалавека?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ




## ДАР'Я ДОМРАЧАВА

«Золатка ты нашае» — так зараз трэба называць Дар'ю Домрачаву. Яна першая з беларусаў атрымала медаль, і адразу залаты, на Алімпіядзе ў Сочы.

Дар'я бліскуча правяла гонку праследу. Яна стартавала толькі дзявятай з 32 секундамі адставання ад славачкі Настассі Кузьміной. Месцы ў пагоні размяркоўваюцца па выніках спрынту.

Ужо падчас першага кіламетра дыстанцыі Дар'я вырвалася на другую пазіцыю, адыграўшы ў Кузьміной 18 секунд. А яшчэ і першая стральба атрымалася ўзорнай.

На другі круг Домрачава сыходзіла, крыху адстаючы ад Кузьміной, аднак вельмі хутка яе нагнала, і на стральбе нервы здалі ў славачкі. Дар'я аказалася трапнай, і на трасу сышла безумоўным лідарам.

Пры трэцяй стральбе адна з куляў трапіла ў габарыт, але мішэнь усё адно закрылася. На апошняй стральбе апошні стрэл так і не закрыў талерачкі. Але нават гэтага хапіла для вельмі камфортнага фінішу.

Гэта другі медаль Домрачавай на Алімпіядзе. Першы (бронзавы) чатыры гады таму яна заваявала ў Ванкуверы.

## ІОСІФ ШАГАЛ



Амбасадар Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал аскандаліўся у інтэрв'ю ізраільскаму каналу RTVI. Ён заявіў, што з пункту гледжання Ізраіля беларускія палітвязні з'яўляюцца крымінальнікамі.

Інтэрв'ю было запісана 6 лютага, а 10 лютага відэа размешчана на сайце youtube.com

«Тыя, каго лічаць палітвязнямі, — гэта чатыры чалавекі афіцыйна сёння. Чатыры чалавекі засталося сядзяць у турме. Лукашэнка прапануоўвае ім напісаць просьбу аб памілаванні, як у гісторыі з Хадаркоўскім: напішы просьбу — цябе выпусцяць. Яны не хочуць, аддаюць перавагу таму, каб заставацца героямі ў турме»,— сказаў Іосіф Шагал.

На пытанне журналісткі аб пазіцыі Ізраіля як адзінай дэмакратыі на Блізкім Усходзе ў адносінах да праблемы палітвязняў у Беларусі, Шагал адказаў: «Як мы паставімся да палесціца, які кіне камень у Кнэсет? Ён хто — палітвязень або крымінальнік? Яны ўсе сядзяць па крымінальным артыкуле, а не палітычным. Усе. За атаку парламента, за кіданне камянёў».

На ўдакладняючае пытанне журналісткі: «А з пункту гледжання Ізраіля?», Шагал адказаў: «З нашага пункту гледжання, яны — крымінальнікі, таму што ў іх ёсць артыкул — за хуліганства, за кіданне камянёў, за прыніжэнне ўладаў і гэтак далей».

Падаецца, Шагала трэба адклікаць з пасады амбасадара. Не за тое, што ён мае сваё меркаванне па праблеме палітвязняў, а з-за поўнай некампетэнтнасці. Ніводзін з сядзячых зараз палітвязняў не кідаў камяні ў будынак парламента. Ім нават такога абвінавачвання не высоўвалі.

## МАЙРА МОРА



Пагадненні аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі паміж Еўрасаюзам і Беларуссю могуць быць падрыхтаваныя да канца гэтага года. Такое меркаванне выказала ў інтэрв'ю БелаПАН кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора.

«Перамовы толькі пачаліся. Была першая сустрэча ў Брусэлі, куды ездзіла намеснік кіраўніка беларускага МЗС Алена Купчына. Наколькі мне вядома, наступная сустрэча плануецца на сакавік, — сказала Мора. — Трэба разумець, што гэта даволі працяглы працэс. Але і з боку ЕС, і з беларускага боку ёсць жаданне прыйсці да выніку. Я настроеная аптымістычна».

Мора адзначыла, што пасля заключэння візавага пагаднення для беларусаў будзе зніжаны кошт шэнгенскіх віз. Паводле яе слоў, беларусам выдаецца адна з найбольшых колькасцяў шэнгенскіх віз у свеце пры вельмі малым ліку адмоў. «І маё асабістае меркаванне, што варта выдаваць болей доўгатэрміновых віз людзям, што часта вандруюць, гэта значна паменшыла б чэргі ў амбасады, бо яны радзей звярталіся б па візы», — сказала Мора.

Савет міністраў ЕС яшчэ ў чэрвені 2011 года запрасіў Беларусь да пачатку перамоваў аб спрашчэнні візавага рэжыму. У лістападзе 2013 на саміце Усходняга партнёрства ў Вільні міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей заявіў, што Беларусь гатовая пачаць перамовы па пагадненнях аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі.

Пагадненні аб спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС ужо падпісаныя з усімі краінамі Усходняга партнёрства і Расіяй. На дадзены момант Беларусь — адзіная краіна УП, грамадзяне якой вымушаныя плаціць за шэнгенскую візу не 35, а 60 еўра.

НАШЫЯ ПРАВЫ — НАШАЕ БАГАЦЦЕ

# ЯК ПАСКАРДЗІЦЦА Ў ААН

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Ратыфікаваўшы Першы факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), Беларусь надала сваім грамадзянам права скардзіцца ў ААН. Па стане на 5 чэрвеня 2013 года ў Камітэце ААН па правах чалавека зарэгістравана 148 паведамленняў ад грамадзян Беларусі. Так што нашы грамадзяне даволі актыўна карыстаюцца такой магчымасцю.**



## Што такое Камітэт?

Камітэт па правах чалавека ААН (КПЧ) быў створаны для кантролю за выкананнем правоў чалавека, выкладзеных у МПГПП. Камітэт мае права прымаць да разгляду паведамленні асоб аб парушэнні дзяржавай-удзельніцай Пакту якога-небудзь з правоў, выкладзеных у Пакце. Па выніках разгляду Камітэт выносіць рашэнні, якія накіроўваюцца як дзяржаве-ўдзельніцы, так і заяўніку. Сесіі КПЧ праходзяць тры разы на год. Улічваючы вялікую колькасць скаргаў, якія паступаюць у КПЧ, разгляд яе звычайна доўжыцца 1,5–2,5 гады.

Большасць працы Камітэта — перапіска. Тым, хто звяртаецца ці марыць звярнуцца ў КПЧ, трэба запасціся часам і цярплівасцю для маштабнага ліставання.

## Як гэта працуе?

Адразу зазначым, што значная частка скаргаў Камітэтам адхіляецца. Проста з-за таго, што ў скаргах парушаныя фармальныя працэдуры яе падачы. Таму лепш падрабязна разабрацца, як гэта працуе.

Найперш, КПЧ ААН працуе толькі з прыватнымі асобамі.То бок, са скаргамі не могуць звяртацца прафсаюзы, НДА, групы студэнтаў або працоўных і гэтак далей. Са скаргай можа звярнуцца толькі грамадзянін краіны, якая ратыфікавала Факультатыўны пратакол да МПГПП (нагадаем, што ў адносінах да Беларусі гэты пратакол набыў моц з 30 снежня 1992 года), або іншаземец, які пражывае на тэрыторыі такой дзяржавы. Да таго ж асоба павінна лічыць сябе ахвярай парушэння дзяржавай аднаго з правоў, абвешчаных у МПГПП.

Таму ад пачатку трэба ўважліва прачытаць Пакт: напрыклад, ім не замацаванае права на працу альбо на адукацыю. На гэта скардзіцца нельга.

У асаблівых выпадках, напрыклад, калі ахвяра парушэння правоў чалавека знаходзіцца ў зняволенні, КПЧ прымае скаргі, пададзеныя членамі сям'і альбо праз упаўнаважанага (напрыклад, адваката), які павінен прадставіць адпаведную даверанасць.

Абскарджваць можна толькі рашэнне дзяржаўнага органа: адміністрацыйнага органа, пракурора, судовае рашэнне. Скарга не можа тычыцца зместу закона, іншага нарматыўна-прававога акта, нават калі гэты акт відавочна супярэчыць нормам МПГПП. Скарга не можа ўносіцца ў інтарэсах грамадскасці. Нельга, напрыклад, фармуляваць агульныя абвінавачванні ў дрэнным абыходжанні са зняволенымі, хібы ў судаводстве, парушэнні таямніцы перапіскі і г.д.

Асоба, што звяртаецца са скаргай, абавязана выкарыстаць усе сродкі абароны, прадугледжаныя нацыянальным заканадаўствам. То бок, рашэнне раённага суда абскарджваецца ў абласны суд, абласнога — у Вярхоўны. І толькі потым ужо — у ААН. Рашэнне дзяржоргана павінна быць абскарджана ў вышэйшы орган або ў суд. Прадметам скаргі можа быць толькі рашэнне, якое ўступіла ў законную сілу. Невыкананне гэтага пункта з'яўляецца асноўнай прычынай адхілення большасці скаргаў.

І, зразумела, скарга не павінна быць ананімнай.

Такім чынам, у скарзе трэба змяшчаць: прозвішча, імя, грамадзянства, род заняткаў, дату і месца нараджэння, адрас; указанне на дзяржаву, у дачыненні да якой падаецца скарга; апісанне фактаў парушэння; артыкулы МПГПП, якія, на думку заяўніка, былі парушаныя; меры па вычарпанні ўнутраных сродкаў прававой абароны, прынятыя заяўнікам, і іх вынікі.

Да скаргі трэба прыкласці копіі ўсіх дакументаў, якія маюць значэнне для справы.

## Перапіска

Пасля пачынаецца самае складанае. КПЧ можа адхіліць скаргу, калі яна відавочна не адпавядае фармальным патрабаванням. Калі яна з'яўляецца прымальнай, Камітэт перадае скаргу дзяржаве, — каб яна выправілася альбо патлумачыла свае дзеянні.

Адказ дзяржавы КПЧ перадае заяўніку, каб ён напісаў свой «адказ на адказ». Дарэчы, КПЧ можа звяртацца да заяўніка за дадатковымі і тлумачэннямі на любым этапе. І толькі пасля гэтага Камітэт прымае рашэнне аб прыёме або непрыёме скаргі.

Калі КПЧ вырашае разглядаць скаргу, то дзяржаве ў чарговы раз прадастаўляецца шасцімесячны тэрмін для тлумачэнняў і інфармацыі: дзяржава павінна паказаць, якія меры яна прыняла ці збіраецца прыняць на карысць асобы, што падала скаргу. Заяўнік атрымлівае копіі гэтых дакументаў і можа прадставіць свае заўвагі і каментары. На гэта і сыходзіць два гады.

Калі Камітэт прыходзіць да нейкага рашэння, ён паведамляе аб ім і дзяржаве, і асобе, якая падала скаргу. Рашэнне Камітэта з'яўляецца канчатковым і абскарджанню не падлягае.

Канстатуючы парушэнне правоў чалавека, КПЧ звяртаецца да дзяржавы з заклікам прыняць захады па выпраўленні сітуацыі. Характар захадаў залежыць ад выгляду парушэння правоў чалавека. Напрыклад, Камітэт можа рэкамендаваць неадкладна вызваліць пазбаўленага волі, аднавіць асобу на пасадзе, выплаціць кампенсацыю. У нашых умовах часцяком канстатацыя Камітэтам факту парушэння правоў з'яўляецца адзіным, што атрымлівае заяўнік.

## І працуе ж!

**Міхаіл Пастухоў, з уласнага досведу:**

Для ілюстрацыі работы КПЧ ААН магу прывесці ўласны досвед. Пасля рэферэндуму 1996 года і ўвядзення ў дзеянне новай рэдакцыі Канстытуцыі, непажаданых суддзяў Канстытуцыйнага суда прымушалі напісаць прашэнні аб адстаўцы на імя Лукашэнкі. Шэсць суддзяў гэта зрабілі, я адмовіўся. Мой лёс вырашыўся толькі ў студзені 97-га, калі фармаваўся новы склад КС: мяне вызвалілі ад пасады суддзі «ў сувязі з заканчэннем тэрміну паўнамоцтваў». Аднак такой падставы для вызвалення ў Законе «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» не прадугледжвалася. Да таго ж членаў Канстытуцыйнага суда абіраў Вярхоўны Савет 12-га склікання на 11 гадоў, і ім гарантавалася незменнасць і недатыкальнасць на ўвесь тэрмін паўнамоцтваў.

Я падаў пазоў у суд Ленінскага раёна Мінска аб аднаўленні на пасадзе. Пазоў быў пакінуты без разгляду: у заканадаўстве не быў урэгуляваны парадак вызвалення канстытуцыйных суддзяў ад пасады. Звароты ў вышэйстаячыя інстанцыі скончыліся тым жа вынікам.

Я накіраваў скаргу ў КПЧ ААН. У якасці парушэнняў МПГПП я пазначыў артыкул 2 аб праве кожнага на прававую дапамогу і артыкул 14 аб недапушчальнасці ўмяшання ў сферу судовай улады з боку якіх бы там ні было асоб.

Пачалася працяглая перапіска праз КПЧ ААН з Міністэрствам замежных спраў Беларусі. МЗС адпрэчваў маю скаргу са спасылкай на новы Працоўны кодэкс, згодна з якім мелася магчымасць урэгуляваць любую спрэчку ў судзе. Я не паддаўся на гэты выкрут, вяртаючыся да часу вызвалення мяне ад пасады.

У сваім выніковым рашэнні ад 5 жніўня 2003 года КПЧ ААН прызнаў, што прэзідэнцкі ўказ ад 24 студзеня 1997 года №106, якім я быў вызвалены ад пасады, меў дыскрымінацыйны характар і не меў законных падстаў. Адзначалася, што ў заяўніка (то бок мяне) не было эфектыўных сродкаў абароны для аспрэчвання звальнення. На думку Камітэта, вызваленне мяне ад пасады суддзі за восем гадоў да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў з'яўляецца «наступам на незалежнасць судовай улады і непавагай да права заяўніка... на службу ў дзяржаўным апараце сваёй краіны».

Беларускай дзяржаве прапаноўвалася даць магчымасць заяўніку аднавіць свае парушаныя правы, уключаючы справядлівую кампенсацыю, інфармаваць КПЧ аб прынятых мерах і апублікаваць рашэнне.

## А што ж дзяржава?

Беларускія ўлады не выканалі рашэнне Камітэта, як, зрэшты, і рашэнні па іншых справах, прынятых па паведамленнях грамадзян Беларусі.

У сувязі з гэтым неабходна вырашыць пытанне аб тым, якую юрыдычную моц маюць рашэнні КПЧ. Бо Камітэт выступае кантралюючым органам у дачыненні да палажэнняў Пакта, і калі дзяржава ратыфікуе Факультатыўны пратакол да Пакту, то рашэнні КПЧ для дзяржавы набываюць абавязковую моц як рашэнні, якія вынікаюць з міжнароднай дамовы.

Такія наступствы для Рэспублікі Беларусь павінны надыходзіць у сілу артыкулаў 26, 27 Венскай канвенцыі аб праве міжнародных дамоў, згодна з артыкуламі 8, 61 Канстытуцыі, артыкуламі 3, 33 Закона «Аб міжнародных дамовах Рэспублікі Беларусь». Для дзяржавы павінен дзейнічаць прынцып pacta sunt servanda (дамовы павінны выконвацца). У адваротным выпадку давядзецца прызнаць адсутнасць у краіне Канстытуцыі, бо там замацоўваецца прыярытэт прынцыпаў міжнароднага права і гарантуецца права грамадзян на зварот у міжнародныя арганізацыі.

Як прымусіць цяперашнюю ўладу да выканання рашэнняў КПЧ ААН па правах чалавека? Перш за ўсё, шляхам аб'яднання саміх грамадзян. Тыя, хто звярнуўся за абаронай сваіх правоў у КПЧ, маюць намер стварыць арганізацыю, мэтай якой будзе прымус уладаў да выканання рашэнняў гэтага органа.

Яшчэ адзін спосаб уздзеяння — ініцыятыва адной з дзяржаў-сябраў ААН па абмеркаванні пытання аб выкананні Беларуссю сваіх абавязацельстваў па лініі Пакта і КПЧ. Такая магчымасць прадугледжваецца ў арт. 41 Пакту.

Ва ўсялякім выпадку, відавочна, што праблема ігнаравання ўладамі Беларусі рашэнняў КПЧ ААН набыла гіпертрафаваны характар. Яе неабходна неадкладна вырашаць як на ўнутрыдзяржаўным, так і на міжнародным узроўнях.

САЦЫЯЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА

# ЯКОЕ ТАМ БЕСПРАЦОЎЕ?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Улады гатовыя адмаўляцца нават ад бачнасці рынкавага сацыялізму. Прэм'ер Міхаіл Мясніковіч у інтэрв'ю праграме «Малюнак свету» на тэлеканале «РТР-Беларусь» заявіў, што Беларусі патрэбна беспрацоўе.**

## Беспрацоўе па Мясніковічу

Разважаючы над пытаннем пра адказнасць кадраў, кіраўнік беларускага ўрада адзначыў: «Мы шмат гаворым аб адказнасці дырэктара, галоўнага канструктара — гэта ўсё зразумела. Але калі сотнямі з прадпрыемства звальняюцца за парушэнне працоўнай і вытворчай дысцыпліны і потым пераходзяць на другі бок вуліцы і ўладкоўваюцца на новае прадпрыемства — так быць не можа. Павінен быць рынак працы. Калі той жа рабочы не будзе адчуваць дыхання ў патыліцу — ён абавязкова будзе працаваць дрэнна. Або не заўсёды якасна».

Адказваючы на пытанне вядучага праграмы Юрыя Казіяткі, ці патрэбна беспрацоўе, Мясніковіч заявіў: «Патрэбна». 3–4%, па яго словах, гэта нармальна. «Калі мы гаворым аб рынкавых адносінах, то павінен быць рынак працы. І наймальнік на рынку працы мае права выбіраць лепшых», — канстатаваў прэм'ер-міністр.

## Ён мае рацыю

У прынцыпе, беларускі прэм'ер мае рацыю, проста выказаўся ён не так. Ён павінен быў сказаць не тое, што Беларусі «патрэбна беспрацоўе» на ўзроўні 3–4%, а тое, што ў нармальных умовах беспрацоўе складае 3–4% ад эканамічна занятага насельніцтва.

Узровень беспрацоўя характарызуе бягучы стан эканомікі краіны. Паводле сучасных уяўленняў эканамістаў, узровень беспрацоўя ў 4–5% лічыцца нормай. Нізкае беспрацоўе (2–4%) сведчыць аб перыядзе ўздыму, высокае (7% і вышэй) кажа аб спадзе.

Сапраўды, узровень беспрацоўя на ўзроўні 4–5% дазваляе забяспечыць канкурэнцыю на рынку працы. Да таго ж, гэта своеасаблівы люфт для развіцця новых інавацыйных прадпрыемстваў — з гэтай колькасці беспрацоўных заўсёды можна навучыць людзей новай спецыяльнасці і новай працы. Ну і, канешне, такі ўзровень беспрацоўя дазваляе замяніць «натуральную страту працоўнай сілы, калі людзі выходзяць на пенсію.

## Такое, якое ёсць

Паводле афіцыйных дадзеных, беларускае беспрацоўе — адно з самых нізкіх у свеце. Можа, за выключэннем Паўночнай Карэі, дзе афіцыйна працуе 101% насельніцтва. Нашае беспрацоўе складае 0,5% эканамічна актыўнага насельніцтва.

Але афіцыйныя падлікі — гэта прапаганда. 0,5% — гэта тыя людзі, якія стаяць на ўліку ў цэнтрах занятасці. Былы міністр працы Беларусі Аляксандр Сасноў нездарма называе гэты паказчык паказчыкам не беспрацоўя, а яўкі беспрацоўных на ўчасткі для рэгістрацыі.

Сама сістэма дапамогі па беспрацоўі ў Беларусі пабудавана такім чынам, каб паказчык тых, хто з'явіўся на рэгістрацыю, быў мінімальным. Я нават здзіўляюся, што такія ўвогуле ёсць, а не «прызначаюцца афіцыйна беспрацоўнымі зверху», каб даць працу Мінпрацы і сацыяльнай абароны. Выгодаў ад рэгістрацыі беспрацоўным значна менш, чым гэта павінна быць.

Усё, што можна атрымаць, зарэгістраваўшыся беспрацоўным,




**Што тычыцца рэальнага памеру беспрацоўя ў Беларусі, то гэтая лічба, па падліках экспертаў, складае ад 20 да 25 працэнтаў эканамічна актыўнага насельніцтва**

— гэта дапамогу па перакваліфікацыі. Якасць гэтай перакваліфікацыі, канешне, залежыць ад самога кваліфікуемага. А перашкодаў рэгістрацыі значна больш.

Найперш, дапамога па беспрацоўі ў Беларусі складае 13–14 долараў на месяц. Сярэдні памер штомесячнай дапамогі па беспрацоўі ў Польшчы — прыблізна 170 долараў. Літоўскі беспрацоўны атрымлівае 135 долараў. Украінская дапамога па беспрацоўі дыферэнцаваная: першыя 9 месяцаў беспрацоўны атрымлівае каля 140 долараў у месяц, пасля чаго памер дапамогі пачынае скарачацца, але застаецца не ніжэй за 70% ад агульнай сумы. Максімальная дапамога ў Расіі таксама складае каля 140 долараў у месяц.

Да таго ж, ніздзе ў суседзяў няма сістэмы «адпрацоўкі беспрацоўя». У нас жа органы беспрацоўя могуць не прызначыць дапамогу, і для яе атрымання чалавек павінен пэўную колькасць дзён адпрацаваць на грамадскіх працах.

Усё гэта дазваляе трымаць беспрацоўных як мага далей ад афіцыйных пунктаў занятасці.

## Вітаем у рэальнасці

Што тычыцца рэальнага памеру беспрацоўя ў Беларусі, то гэтая лічба, па падліках экспертаў, складае ад 20 да 25% эканамічна актыўнага насельніцтва.

Па дадзеных таго ж Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у 2013 годзе ў эканоміцы Рэспублікі Беларусь было занята 4 мільёны 517,8 тысяч чалавек, і налічвалася толькі 20,9 тысяч беспрацоўных. Але…

Па падліках незалежных эканамістаў, ад 600 тысяч да мільёна беларусаў стала альбо сезонна працуюць за мяжой, пераважна — у Расіі. Гэтаму спрыяюць значна большыя расійскія заробкі, адзіная працоўная прастора, бязмытны ўезд і адсутнасць моўнай праблемы. Як правіла, тыя, хто ездзіць туды на сезон (напрыклад, будаўнікі), на працу ў Беларусі не ўладкоўваюцца, чакаючы новага выкліку ад вярбоўшчыкаў.

Па тых жа падліках, 200–300 тысяч чалавек працуюць у шэрай зоне эканомікі, афіцыйна не ўладкоўваючыся на працу. Сам Міхаіл Мясніковіч улетку 2013 года прыводзіў яшчэ большую лічбу, налічыўшы ў Беларусі 400 тысяч чалавек, якія нідзе не вучацца і не працуюць, — тады, калі прапаноўваў браць падатак з гультаёў.

Такім чынам, па самых песімістычных падліках, фактычнае беспрацоўе можа сягаць паўтара мільёна чалавек, альбо 30% эканамічна актыўнага насельніцтва.

## Падмена паняццяў

Насамрэч, беларускае беспрацоўе — гэта такая ж падмена паняццяў, як «энергетычны крызіс» перыяду нафтагазавых войнаў з Расіяй. Ужо тады некаторыя эканамісты прасілі не блытаць паняцці, бо ў Беларусі не было праблемаў з газам ці нафтай — была праблема з плацяжамі за гэты газ і нафту. А гэта ўжо — праблема іншага парадку.

Тое ж самае і з беспрацоўем. Як такой праблемы з ім у нас не існуе. У нас ёсць праблема справядлівага заробку за зробленую працу. Каб у нас заробак будаўнікоў, кіроўцаў аўтобусаў альбо медыкаў быў на ўзроўні хаця б расійскага — ніхто б і не падумаў з'язджаць працаваць у суседнюю краіну. Але для гэтага трэба, каб эканоміка працавала не ў ручным рэжыме.

Для таго, каб людзі сышлі з шэрай зоны эканомікі, павінны быць простыя падатковыя і кантрольныя правілы, павінна быць разняволеная прыватная ініцыятыва. Гэтага мы за 20 гадоў не дамагліся, нягледзячы на ўсе праграмы па развіцці прадпрымальніцтва.

Карацей, праблема беспрацоўя палягае не ў самім беспрацоўі як такім. Яна палягае ў параўнальна нізкіх заробках і немагчымасці рэалізавацца ў Беларусі. А гэта ўжо — структурныя праблемы беларускай эканомікі, якія сённяшнім урадам не вырашаюцца.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ПЛЯМА НА РЭПУТАЦЫІ



**Агенцтва «Bloomberg» мае рацыю, калі ставіць Беларусь у тройку самых нафтазалежных краін свету, якія вельмі хутка падвышалі долю нафтавай галіны ў вытворчасці ВУП. Але больш цікава, што, амаль не маючы ўласнай нафты, Беларусь стала адным з асноўных экспарцёраў нафтапрадуктаў на сусветны рынак.**

Эксперты не памыляюцца, калі сцвярджаюць, што чвэрць стагоддзя таму Беларусь амаль нічога не зарабляла на пастаўках нафтапрадуктаў, а хутка заробіць на гэтай справе амаль 13 мільярдаў долараў.

Чвэрць стагоддзя таму Беларусь атрымлівала на перапрацоўку 20 мільёнаў тон нафты, што адпавядала магчымасці заводаў у Мазыры і Наваполацку.

А яшчэ раней (у 1975 г.) здабыла 8 мільёнаў уласнай нафты. Пасля, калі здабыча пачала скарачацца, павялічваліся пастаўкі з «саюзнага фонду». У першы год натуральнага эканамічнага суверэнітэту Беларусь здабыла 2 мільёны тон уласнай нафты і атрымала ад Расіі 20 мільёнаў тон. Столькі ж перапрацоўваюць зараз беларускія заводы. Зараз Беларусь спажывае 21–22 мільёны тон нафты, якія купляе ў Расіі і 1,5 мільёна тон уласнай. Чакаецца, што Расія падвысіць квоты яшчэ на 1 мільён.

Аднак шчасця не было ні тады, ні зараз. Што змянілася? Прыкладам, тады бензін каштаваў менш за бутэльку ліманаду. Усё паліва належала прадпрыемствам, таму вадзіцелі, каб прыпісаць тона-кіламетры, пасля рэйсу злівалі паліва за любым кустом. Гэта на той выпадак, калі начальнікі вырашыць замерыць расход бензіну. На казённым бензіне ездзіла ўсё начальства — хто б у іх запытаўся. Але і шарагоўцы мелі магчымасць ездзіць на дурніцу.

Танны бензін — не гарант шчасця. СССР разваліўся, і кожны пачаў пасвойму шукаць паратунку. Лукашэнка, стаўшы ў 1994 годзе прэзідэнтам, паўтараў — мне дасталіся пустыя засекі.

Дзіва было, каб яны былі поўнымі. Па-першае, зменшыліся патрэбы прамысловай вытворчасці па палітычных матывах, па-другое, пачаўся пераход да рынку, які ўводзіў паўсюль жорсткія стандарты эканомікі, па-трэцяе, тавары і фактары вытворчасці трэба было купляць, а грошай ні ў каго не было. Можна было б назваць яшчэ тысячу розных акалічнасцей, але ўрад Гайдара палічыў — выратавацца можна толькі праз продаж сыравіны. Таму ўрад Ельцына падвысіў кошты і тарыфы для айчынных прадпрыемстваў, каб вызваленую сыравіну прадаць за мяжу.

Зразумела, што «пад раздачу» трапіла і беларуская прамысловасць. Урад Кебіча вёў з гайдараўцамі перамовы, каб для браткоў-беларусаў усталявалі такія ж кошты, як і для расійскіх прадпрыемстваў, і дамовіліся, што для сваёй эканомікі Беларусь атрымае ільготны мінімум. Астатняе павінна купляць па сусветных коштах. Карацей, у 1993 годзе Беларусь атрымала ў Расіі не 20, а толькі 12 мільёнаў тон нафты. Вядома, шмат якія прадпрыемствы амаль спынілі працу. Але асобныя вытворчасці праявіла добрую жывучасць. Прыкладам, на МТЗ у 1993 годзе выпусцілі 82,4 тысячы трактароў. Няблага, калі параўнаць з максімальным выпускам — 101,3 тысячы машын у 1969 годзе.

Быццам бы механізм адпрацавалі. Не такі, як хацелі, а такі, які атрымаўся. Для Беларусі вызначаецца квота льготнай нафты для ўнутраных патрэб, а за астатняе трэба плаціць большыя кошты, каб прадаваць нафтапрадукты на вольным еўрапейскім рынку. Год ад года болей і з добрымі прыбыткамі. Па афіцыйных дадзеных, Беларусь купляе ў Расіі нафту па 391 долару за тону, а сваю прадае амаль па двайной цане (766 долараў). Значыць, павінна добра зарабляць на экспарце нафтапрадуктаў. Мусіць, выгодная справа. Калі экспарт нафтапрадуктаў Беларусь падвысіла з 7,8 мільёна тон у 2000 годзе да 15–17 мільёнаў тон у 2010–2011 гадах, то нафтавалютная плынь хлынула ў бюджэт?

Хлынула. У выглядзе тых паперак, якія сведчаць, што беларусы своечасова разлічваюцца за нафту, якую купляюць у Расіі. Купілі нафту, перапрацавалі, прадалі бензін, разлічыліся з прадаўцамі, пазычылі грошай, каб купіць…

Вось такая праца і такія заробкі. Ці не таму Лукашэнка сцвярджаў, што нафтавы бізнэс у Беларусі не вельмі прыбытковы. Бо не мы іх доім, а яны нас, таму ён і кінуўся ў авантуру з растваральнікамі.

Зарабіць — не зарабіў, але нафтавую пляму пасадзіў. І на гарнітур, і на рэпутацыю. І першая, і другая цалкам натуральныя…

▸ РАЗВАЖАННІ



# Мечыслаў Грыб: ТАТАЛІТАРНЫ РЭЖЫМ НЕ МОЖА БЕЗ РЭПРЭСІЙ

Сяргей ПУЛЬША

**Смяротнае пакаранне — спадчына, якая засталася ў нас з часоў СССР. Ніхто з гэтым не спрачаецца. Такі від пакарання ёсць практыкай таталітарызму. Каб пазбавіцца таталітарнай спадчыны, трэба, найперш, адмовіцца ад смяротнага пакарання. Пра гэта мы размаўляем з Мечыславам Грыбам — экс-спікерам парламента, які амаль усё жыццё аддаў працы ў міліцыі.**

Мечыслаў Грыб у 1967 годзе скончыў БДУ па спецыяльнасці «юрыст», і прайшоў шлях ад інструктара па палітыка-выхаваўчай рабоце Упраўлення аховы грамадскага парадку Віцебскага аблвыканкама да начальніка Упраўлення аховы грамадскага парадку МУС БССР і начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. Генерал-лейтэнант міліцыі — першы ў Рэспубліцы Беларусь. Той, хто расследаваў да канца знакамітую справу маньяка Міхасевіча ў Віцебску.

Мечыслаў Іванавіч кажа, што спецыяльна гісторыяй смяротнага пакарання не займаўся. «Гэта занадта вялікая тэма. Гэта не проста інстытут, гэта і спосабы смяротнага пакарання. Ад часоў сярэднявечча людзей не толькі расстрэльвалі, але і тапілі, палілі, чацвертавалі. З іншага боку, яшчэ і тэма пра тое, за што чалавека пазбаўлялі жыцця — за шпіянаж, у ваенныя часы. За якія злачынствы яно прымянялася», — тлумачыць ён.

Але, што тычыцца савецкіх часоў, Грыб кажа: не ўсё так кепска з гэтым пытаннем было нават пры Саветах.

## Тры мараторыі напачатку стагоддзя

Мечыслаў Іванавіч распавядае, што за ХХ стагоддзе на тэрыторыі сучаснай Беларусі мараторый на смяротнае пакаранне ўводзіўся аж чатыры разы. «Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, калі да ўлады прыйшлі сацыялісты, Часовы ўрад прыняў рашэнне пра адмену смяротнага пакарання. І афіцыйна гэтае смяротнае пакаранне было адменена 25 сакавіка 1917 года. Але ў той час ішла Другая сусветная вайна, і ў чэрвені 1917 года смяротнае пакаранне было ўведзенае — але толькі за вайсковыя злачынствы.

Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў, смяротнае пакаранне, як ні дзіўна, таксама адмянялася, і неаднаразова. Напрыклад, Дэкрэт II Усерасійскага з'езда Саветаў ад 26 кастрычніка 1917 года ў тым ліку абвяшчаў і аб адмове ад смяротнага пакарання. Пратрываў гэты мараторый амаль год — 5 верасня 1918 года ў сувязі з прыняццем пастановы СНК РСФСР «Аб чырвоным тэроры» расстрэлы ўзнавіліся.

Пакуль ішла вайна, такога маштабнага кроку, як адмена смяротнай кары, зрабіць было немагчыма. Але ж вайна не вечная. І напачатку 1920 года сумеснай пастановаю Усесаюзнага цэнтральнага выканаўчага камітэта і Савета народных камісараў ад 17 студзеня 1920 года смяротная кара таксама адмянялася. «Рэвалюцыйны пралетарыят і рэвалюцыйны ўрад Савецкай Расіі з задавальненнем канстатуюць, што разгром узброеных сіл контррэвалюцыі дае ім магчымасць адкласці ў бок зброю тэрору… Зыходзячы з вышэйвыкладзенага, Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў пастанаўляюць: адмяніць прымяненне вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) як па прысудах Усерасійскай надзвычайнай камісіі і яе мясцовых органаў, так і па прысудах гарадскіх, губернскіх, а таксама і Вярхоўнага пры Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэце трыбуналаў», — казалася ў гэтай пастанове.

Яе падпісалі людзі, якіх потым зрабілі «самымі крываежэрнымі ў гісторыі рэвалюцыі», — Уладзімір Ленін, Фелікс Дзяржынскі і Авель Енукідзе.

Праз пяць месяцаў, праўда, расстрэл ізноў стаў магчымым — 4 мая 1920 года быў прыняты загад Рэўваенсавета маладой савецкай краіны «Аб рэвалюцыйных ваенных трыбуналах». Расстрэлам магла караць «контррэвалюцыйная» дзейнасць — але такія рашэнні маглі прымаць толькі рэвалюцыйныя ваенныя трыбуналы. То бок, тэарэтычна, смяротная кара дзейнічала толькі за ваенныя злачынствы і толькі ў ваенны час, а выносіць смяротныя прысуды маглі толькі ваенныя трыбуналы.

Аднак, як заўважыў Мечыслаў Грыб, паціху-палёгку «законы ваеннага часу» пераходзілі ў мірнае грамадзянскае жыццё. «Бо такая сутнасць таталітарнага рэжыму — ён не можа без рэпрэсій. Рэпрэсіі — гэта палітыка, гэта спосаб утрымання ўлады», — кажа Грыб.

Дарэчы, ніхто не задумваўся, чаму ў часы сталінскіх рэпрэсій прысуды выносіліся фактычна пазасудовым парадкам — «двойкамі» і «тройкамі»? І чаму для смяротнага пакарання была абраная такая фармулёўка — «15 год без права перапіскі»? Таму што фармальна прысуды выносіліся «па законе ваеннага часу», і тым самым ствaралася бачнасць «рэвалюцыйнага трыбуналу», і бачнасць таго, што ніякіх смяротных прысудаў у краіне няма.

«Тройкі» як пазасудовы орган былі створаны 29 кастрычніка 1929 года цыркулярам АГПУ для папярэдняга разгляду следчых спраў і даклада на судовых пасяджэннях. А фармальна права выносіць смяротныя прысуды яны атрымалі толькі 30 ліпеня 1937 года.

## …І адзін савецкі

Апошні савецкі мараторый на смяротнае пакаранне пратрываў даволі доўга. Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26 мая 1947 года «Аб адмене смяротнага пакарання» гэта пакаранне было адменена ў мірны час, а злачынствы, за здзяйсненне якіх прадугледжвалася вышэйшая мера пакарання, караліся пазбаўленнем волі тэрмінам на 25 гадоў.

Затым смяротнае пакаранне Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 12 студзеня 1950 года «Аб прымяненні смяротнага пакарання да здраднікаў радзімы, шпіёнаў, падрыўнікоў — дыверсантаў» дапускалася як выключэнне з папярэдняга Указа. Прычым, відавочна, што гэта было зроблена спецыяльна з мэтаю рэпрэсіяў, пад так званую «ленінградскую справу» — справу, сфабрыкаваную супраць вышэйшых кіраўнікоў ВКП(б) з Ленінграда.

У далейшым, з 1954 года, смяротнае пакаранне дапускалася таксама ў дачыненні да асуджаных за забойства пры абцяжарваючых абставінах, а з 1960 года — і за асабліва буйныя фінансавыя злачынствы.

Канчаткова смяротнае пакаранне як выключная мера было ўстаноўлена Крымінальным кодэксам СССР 1961 года, распавядае Мечыслаў Грыб.

Такім чынам, уся гісторыя смяротнага пакарання ў СССР непарыўна звязаная з гісторыяй сталінскіх рэпрэсіяў. Смяротнае пакаранне неаднаразова адмянялася, але і неаднаразова ўводзілася. І ўводзілася яно менавіта напярэдадні рэпрэсіяў, каб надаць рэпрэсіям і забойствам бачнасць законнасці. А ўжо потым інстытут смяротнага пакарання пускаў карані і ў звычайным крымінальным пакаранні.

## Пахаванне — таксама рэпрэсіі

Як мяркуе Мечыслаў Грыб, практыка выканання смяротнага пакарання, якая існуе ў Беларусі, таксама ёсць спадчынай менавіта сталінскіх рэпрэсіяў. Тое, што родзічам асуджанага не паведамляюць пра тэрміны выканання пакарання, не выдаюць цела, не выдаюць асабістыя рэчы расстралянага, не раскрываюць месца пахавання — гэта ўсё наступствы сталіншчыны.

«З савецкіх часоў нашы ўлады не разумеюць, што, калі ўжо прымянілі такую меру пакарання, не трэба здзекавацца з людзей. Не трэба хаваць таемна целы, трэба аддаваць гэтыя целы сваякам для пахавання і памінання, і гэтак далей. Ну, не мае дзяржава на гэта права — пазбавіць людзей памяці, хай і пра злачынцу. Гэта людзі павінны самі вырашаць, будуць яны яго помніць альбо не будуць. Ну, добра, вы пакаралі чалавека за злачынства смерцю — і па законе пакаралі. А за што вы караеце яго сваякоў, блізкіх, родзічаў? За што вы не даяце ім магчымасці хадзіць на магілкі?» — задае пытанне генерал-лейтэнант міліцыі.

«Я разважаю, і думаю, што гэта звязана з рэпрэсіямі. Калі былі масавыя расстрэлы — у Курапатах, Лошыцы, іншых месцах. Тады трэба было хаваць патаемна, бо, калі б пра гэта тады расказалі, і людзі б туды пайшлі шукаць целы родных, пабачылі б, што там творыцца, — ад савецкай улады б нічога не засталося», — лічыць Грыб.

## Пазбавіцца таталітарнай спадчыны?

Зараз, калі ўжо дзясяткі і сотні разоў асуджаныя сталінскія рэпрэсіі і сталінізм, здавалася б, прыйшоў час пазбавіцца такой таталітарнай спадчыны, як смяротнае пакаранне. Гэтае пытанне, па словах Мечыслава Грыба, з аднаго боку складанае, з іншага — не вельмі.

Складанасць, па ягоных словах, палягае ў тым, што на рэферэндуме 1996 года народ выказаўся за захаванне гэтай вышэйшай меры. А па законе, адмяніць рашэнне рэферэндуму можна толькі другім рэферэндумам. «І я не ўпэўнены, што народ выкажацца за адмену смяротнага пакарання», — кажа Грыб, хоць і сам ён з'яўляецца прыхільнікам такой адмены.

Значна прасцейшы шлях, па ягоных словах — увесці мараторый на смяротнае пакаранне і паглядзець, што з гэтага атрымаецца.

«Трэба разумець, што мараторый — гэта не адмена смяротнага пакарання. Гэта проста прыпыненне выканання смяротных прысудаў. Сёння, калі да смяротнага пакарання прысуджаецца два ці пяць чалавек, гэта зрабіць нескладана. Увогуле, прэзідэнт краіны можа зрабіць гэта проста сваім указам — нават не тлумачачы, чаму і навошта ён гэта зрабіў», — кажа Грыб.

Складана ўвесці мараторый альбо адмяніць смяротнае пакаранне было ў часы Вярхоўнага Савета. З шэрагу прычынаў, і найперш з той, што ў той час не было альтэрнатывы смяротнаму пакаранню ў выглядзе пажыццёвага зняволення. «Пажыццёвае» з'явілася ў беларускім заканадаўстве толькі ў 1997 годзе, і з таго часу колькасць асуджаных да пазбаўлення жыцця знізілася ў дзясяткі разоў.

Больш за тое, па словах Грыба, існуе і думка, што смяротнае пакаранне — гэта значна больш лёгкае пакаранне, чым пажыццёвае зняволенне. І лепш бы злачынца ўсё жыццё пакутаваў, чым «проста так» адышоў у іншы свет.

«Расія з 1996 года ўвяла мараторый на смяротнае пакаранне — і нічога. Пры той злачыннасці, што ёсць там, пры тэрактах, пры заказных забойствах, але там не менш, існуе, не павалілася», — адзначае Грыб.

Паводле меркавання генерал-лейтэнанта міліцыі ў адстаўцы, праблему злачыннасці смяротнае пакаранне не вырашае. «Вырашыць яе толькі асэнсаванне непазбежнасці пакарання. Бо кожны не жадае несці адказнасці нават за самае дробнае злачынства. Калі ён будзе ведаць, што пакаранне непазбежнае, калі ў яго не будзе прыкладаў таго, што хтосьці зрабіў злачынства і пазбегнуў пакарання, ходзіць па вуліцы і гэтак далей — вось гэта з'яўляецца прафілактыкай злачыннасці. А не само пакаранне, будзь яно сто разоў жорсткае», — лічыць Грыб.

Увесці мараторый на смяротнае пакаранне, на думку Грыба, было б вельмі карысна. Хаця б паглядзець, што з гэтага атрымаецца. У любым выпадку, смяротнае пакаранне — гэта невыпраўляльная мера, а мараторый можна ўвесці, а можна і адмяніць.

**Трэба разумець, што мараторый — гэта не адмена смяротнага пакарання. Гэта проста прыпыненне выканання смяротных прысудаў. Сёння, калі да смяротнага пакарання прысуджаецца два ці пяць чалавек, гэта зрабіць нескладана**

## 19 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыхание».
**12.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). Закл. серыі.
**14.35** БеларусьLIFE.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыхание».
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей». 1-я і 2-я серыі.
**00.05** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.50** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** «Жыцьздорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05, 22.10** Шматсерыйны фільм «Цікаўная Варвара».
**23.10** Вострасюжэтны фільм «Вулкан».
**01.05** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не сніласяя».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Афрыканец» (Францыя, 1983 г.).
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не сніласяя».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХараШоў».
**20.20** Фільм «Смяротны нумар» (Вялікабрытанія - Аўстралія, 2007 г.).
**22.10** «Уявіце сабе».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План Б». 3 серыя.
**10.10** Рэпарцёр.
**10.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Мужчыны. 14 фіналу. Прамая трансляцыя.
**13.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**14.40** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Камандны спрынт. Класічны стыль. Мужчыны. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.00** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**16.25** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія). 3-я серыя.
**17.25** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Змяшаная эстафета. Прамая трансляцыя.
**19.00** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**19.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Мужчыны. 14 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.20** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**22.30** Тэлебарометр.
**22.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 18 фіналу. «Арсенал» - «Баварыя». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Настальжы». Творчасць спевака Віктара Вуячыча.
**08.55** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**09.20** «Росчырк часу». Мастак Аляксей Літвін.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** Серыял. «Доктар Жывага». 4 серыя.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «Год у гісторыі».
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара і музыканта, народнага артыста РСФСР Алега Янчанкі.
**12.25** «Бенефіс». Творчасць народнага артыста СССР Генадзя Аўсяннікава.
**13.20** «Лабірынты». Архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі.
**13.45** «Музеум». Сядзібны партрэт.
**14.05** «Анёл на мачце». Дакументальны фільм пра лёс нямецкага карабля.
**14.30** «Найменні і вобразы». Творчасць народнага майстра Тацціяны Пярвухінай.
**14.45** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Уладзімір Гасцюхін. «Узыходжанне». Дакументальны фільм.
**15.15** С. Картэс. «Візіт дамы». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**16.50** «Палескі пачастунак». Грачанікі.
**17.05** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Спадчына Гедыміна. Гісторыя Лідскага замка.
**17.35** «Зубр». Дакументальны фільм.
**17.50** «Адлюстраванні». Міхал Клеафас Агінскі.
**18.20** «Карані».
**18.45** «Одры Хёпберн. Магія стылю». Дакументальны фільм.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Доктар Жывага». 5 серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.00** «Пацалунак». Мастацкі фільм.
**23.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара і музыканта, народнага артыста РСФСР Алега Янчанкі.
**23.35** «Калейдаскоп».
**23.40** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 18.20** Т/с «Нямы сведка».
**10.00, 01.15** М/ф «Блакітны лёд».
**11.30** «Народжаныя перамагаць».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Т/с «Чужыя памылкі».
**14.05** Лядовыя страсці.
**15.20, 00.25** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.10** Т/с «Монтэкрыста».
**21.20** Т/с «Чорны крумкач».
**23.05** «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.35** Д/ф «Анатоль Тарасаў і Усевалад Баброў: вялікае супрацьстаянне».
**02.30** Т/с «Заручальны пярсцёнак».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.42, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў -13.
**21.25, 22.10** Шаман -2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.28** Марскія д'яблы -5.
**01.19** Паверх.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 23.50, 02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.40, 14.00** Без межаў.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40, 15.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Музей Паэта.
**10.05, 15.30** Відзьмо-невідзьмо.
**10.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзяржаў ці дзяржаваў, моў ці моваў?.
**10.50** Форум (ток-шоў): Аўтазалежнасць.
**11.35** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Найявярнейшы жаўнер Гітлера».
**14.20** Аб'ектыў.
**16.00** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзяржаў ці дзяржаваў, моў ці моваў?
**16.15** Назад у будучыню.
**16.30** Форум (ток-шоў): Аўтазалежнасць.
**17.15** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Найявярнейшы жаўнер Гітлера».
**18.00** «Лонданцы», серыял: 6 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.05** «Парадокс», серыял: 7 серыя.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.35** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.

## 20 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыхание».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыхание».
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**00.05** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Дзень спорту.
**01.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыцьздорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05, 22.10** Шматсерыйны фільм «Цікаўная Варвара».
**23.10** Вострасюжэтны фільм «Чужыя».
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік «ХараШоў».
**09.05** «Вам і не сніласяя».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** Дзённік «ХараШоў».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Смяротны нумар» (Вялікабрытанія - Аўстралія, 2007 г.).
**15.35** Дзённік «ХараШоў».
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Дзённік «ХараШоў».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не сніласяя».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5: пачатак» (ЗША, 1998 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**10.15** Заўтра - гэта мы!
**11.00** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжнае дваяборства. Камандны турнір. Скачкі з трампліна. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**11.55** «На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014».
**12.25** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Фрыстайл. Скі-крос. Мужчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**14.00** Алімпійскія гульні. Лыжнае двааборства. Камандны турнір. Лыжная гонка. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.15** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**16.20** Аўтабатл.
**16.55** Імперыя песні.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**20.25** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.45** КЕНО.
**22.55** Тэлебарометр.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Лабірынты». Камянец-Падольскі. Кветка на камяні.
**08.55** «Свет прыроды». Вярхоўе ракі Ловаць.
**09.20** «Найменні і вобразы». Творчасць народнага майстра вышыўкі Ліліі Зарэцкай.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Год у гісторыі».
**10.50** Серыял. «Доктар Жывага». 5 серыя.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.40** «Год у гісторыі».
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці беларускай пісьменніцы Таісіі Бондар.
**12.25** «Карані».
**12.55** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**13.20** «Камертон». Віртуоз ігры на акардэоне Пётр Дранга.
**13.50** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм.
**14.30** «Ведай нашых!». Заслужаны майстар спорту Юлія Несцярэнка.
**14.45** «Скарбніца Віцебшчыны». Гісторыя Паставскага краю.
**15.15** «Пацалунак». Мастацкі фільм.
**16.20** «Палескі пачастунак». «Крамбамбуля».
**16.35** «Пейзажы скрозь час». Тэрнер у гавані Онфлэр.
**17.05** «У рэху імені твайго...» Пра жыццё жонкі князя Міндоўга Марты.
**17.20** «Плошча мастацтваў». Паэт, журналіст, рэдактар Юрый Сапажкоў.
**17.45** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**18.00** «Пра тое, што помню і люблю». Дак. фільм.
**18.25** «Белы бусел. Не размініся з мараю». Дак. фільм пра пра пілатажную групу «Белая Русь».
**19.10** «Скарбніца Берасцейшыны». Старажытнае Бярэсце.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Доктар Жывага». 6 серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.30** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.00** «Я родам з дзяцінства». Мастацкі фільм.
**23.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці беларускай пісьменніцы Таісіі Бондар.
**23.55** «Калейдаскоп».
**00.00** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.10** Д/ф «Рэальны свет».
**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 18.20** Т/с «Нямы сведка».
**10.00, 01.10** М/ф «Ход белай каралевы».
**11.30** «Народжаныя перамагаць».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Т/с «Чужыя памылкі».
**14.05** Д/ф «Жыццё пасля спорту».
**15.20, 00.20** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.10** Т/с «Монтэкрыста».
**21.20** Т/с «Чорны крумкач».
**23.00** «Злачынства і пакаранне».
**23.30** Д/ф «Жывая легенда: Тацціяна Тарасава».
**02.50** Т/с «Заручальны пярсцёнак».

### НТВ

**06.07** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.39, 09.38, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.32** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў -13.
**21.25, 22.10** Шаман -2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.28** Марскія д'яблы -5.
**01.19** Паверх.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.30, 14.50, 00.20, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55, 14.25** Аб'ектыў.
**09.40, 15.10** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**10.00** Чорным па белым: Музей Паэта.
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** «Парадокс», серыял: 7 серыя.
**11.45** Невядомая Беларусь: «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**12.15, 17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**14.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.30** Чорным па белым: Музей Паэта.
**15.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.25** «Парадокс», серыял: 7 серыя.
**18.00** «Час гонару», серыял: 73 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 03.00** Два на два (тэледыскусія): Беларускае праваслаўе ў цені Масквы.
**22.20** «Халасцякавічы», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**23.35** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Згаі», серыял: 8 серыя.
**01.50** Рэпартэр.
**02.15** Аб'ектыў.

## 23 лютага, нядзеля

### Беларусь 1

**07.20** Героіка-патрыятычны кінараман «Афіцэры» (СССР).
**09.00, 12.00, 18.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).
**11.30** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**14.20** Медычныя таямніцы.
**14.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Фінал. Прамая трансляцыя.
**118.05** Твой горад.
**18.25** БеларусьLIFE.
**18.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Урачыстая цырымонія закрыцця. Прамая трансляцыя.
**21.30** Галоўны эфір.
**22.30** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.55** Баявік «Адчайны» (ЗША).
**00.45** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).

### ОНТ

**07.00, 08.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная прапаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.45** Фільм «Афіцэры».
**11.30** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.40** Кіно «Нябесны ціхаход».
**14.15** Фільм «Службовы раман».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Тайговы раман».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: фільм «Матч».
**23.20** Фільм «Кіроўца для Веры».

### СТВ

**06.15** Фільм «Нябесны ціхаход» (СССР, 1945 г.).
**07.40** «100 адсоткаў».
**08.10** Фільм «Таце зноў 17» (ЗША, 2009 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Максім Перапяліца» (СССР, 1955 г.).
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Шэрлак Холмс» (ЗША - Германія, 2009 г.).
**23.05** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**00.20** «СТБ-спорт».
**00.30** Фільм «Праверка на дарогах» (СССР, 1971 г.).
**02.10** «Бітва цывілізацый».

### Беларусь 2

**06.55** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**07.55** Тэлебарометр.
**08.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.50** Заўтра - гэта мы!
**09.20** Аўтабатл.
**09.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.10** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Баблсей. Чацвёркі. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.10** «На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014».
**15.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.10** Хакей для ўсіх.
**17.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**18.35** Суперлато.
**19.25** Гандбол. Ліга Чэмпіёнаў. Прамая трансляцыя.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Камедыя «Мільянер нехаця» (ЗША).
**23.35** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** Канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.
**09.45** «Генералы супраць генералаў». Дакументальны фільм. 1-я - 4-я серыі.
**12.25** «Калейдаскоп».
**12.30** «Доўгі шлях у лабірынце». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**14.45** «Калейдаскоп».
**15.55** «Эпоха». Тадэвуш Касцюшка.
**16.50** «Пра Віцю, пра Машу, пра марскую пяхоту». Мастацкі фільм.
**17.55** «Культпрасвет».
**18.20** Сусветнае кіно. «Маска Зора».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Поклонимся великим тем годам!». Песні ваенных гадоў у выкананні Уладзіміра Александровіча.
**22.05** «Культпрасвет».
**22.35** «Пункт адліку». Мастацкі фільм.
**00.10** «Канстытуцыйны абавязак». Дакументальны фільм з цыкла «У інтарэсах нацыянальнай бяспекі» пра гісторыю Узброеных Сіл Беларусі.
**00.40** «Калейдаскоп».

### Мир

**05.05** Д/ф «З нагоды».
**05.00** М/ф «Казкі. «.
**07.30** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зямля і неба».
**09.35** Прыгоды Македонскай.
**09.45** «Са свету па нітцы».
**10.15** М/ф «Маленькі сведка».
**12.35, 15.10** Т/с «Азазель».
**15.35** М/ф «Турэцкі гамбіт».
**19.25** М/ф «Стацкі дараднік».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.50** М/ф «Той самы Мюнхгаўзен».
**01.10** М/ф «Дом лятучых кінжалаў».
**03.15** М/ф «Знішчальнікі».

### НТВ

**06.28** Агент адмысловага прызначэння-3.
**08.00** Сёння.
**08.19** Медыцынскія таямніцы.
**08.49** Іх норавы.
**09.24** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** Дачны адказ.
**11.25** Паедзем паямо.
**11.57** Цуд тэхнікі.
**12.29** Першая перадача.
**13.00** Сёння.
**13.20** І зноў добры дзень!
**13.46** Справа цёмная.
**14.44, 17.18, 18.08** Марскія д'яблы.
**19.00** Сёння. Выніковая праграма.
**19.50, 20.45** Марскія д'яблы.
**21.35, 22.33** Марскія д'яблы -5.
**23.12** Від3астужка НТБ. Апошні герой.
**00.18** Авіятары.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Пацукі».
**07.40** «Тры шалёныя нулі», серыял: 5 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Музей Паэта.
**09.35** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.50** «Апантаныя», дак. цыкл.
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Невядомая Беларусь: «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**11.05** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Пацукі».
**11.30** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**12.20** «Тры шалёныя нулі», серыял: 5 серыя.
**12.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знявечаная мова зямлі.
**13.05** Дакументальная гадзіна: «Планета Кірсан», дак. фільм, 2010 г., Польшча–Расія.
**14.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**14.10** «Парадокс», серыял: 7 серыя.
**14.55** «Як усе», меладрама, 2007 г., Францыя.
**16.30** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 4 серыя.
**17.15** «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**17.30** «Час гонару», серыял: 74 серыя.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**19.10** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Рэквіем», маст. фільм, 2006 г., Германія.
**22.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Віктар Малышчыц і зоры.
**23.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Заслаўе (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

## Для тых, хто прымае рашэнні!

Новы Час

**www.novychas.info**

---

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

---

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

СКАНДАЛ

# ТРАГЕДЫЯ ГАЛОЎНАЙ ФЕМІНІСТКІ

Алег НОВІКАЎ

**У нямецкіх прыхільнікаў дамастрою вялікае свята. Ікону феміністкага руху ФРГ злавілі на ўкрывальніцтве ад падаткаў.**

Яшчэ месяц таму, калі Аліса Швайцэр святкавала 72-і дзень народзінаў, нямецкая прэса пісала на яе адрас выключна панегірыкі. Тым больш, што на дзень нараджэння святочную паштоўку Алісе даслаў сам Папа Рымскі. Але не прайшло і месяца, як Аліса ператварылася ў злоснага неплацельшчыка. 2 лютага ўплывовы часопіс «Der Spiegel» выклаў супраць Швайцэр знішчальны кампрамат. Аказалася, што з 1980-х гадоў Аліса Швайцэр мае рахунак у швейцарскім банку, пра аперацыі з якім ніколі не інфармавала падатковую ФРГ. У выніку махінацый бюджэт ФРГ не далічыўся каля 200 тысяч еўра.

200 тысяч еўра — сума для Германіі невялікая. Аднак тут сітуацыя асаблівая. Аліса Швайцэр — гэта чалавек, якога доўгі час шмат хто лічыў амаль што ўвасабленнем маралі.

Упершыню нямецкая грамадскасць пачула пра Алісу Швайцэр у 1971 годзе. Тады яна, 29-гадовая немка, якая вучылася ў Парыжы, далучылася да кампаніі супраць забароны абортаў. Канцэпцыя кампаніі была вельмі незвычайнай. Яе ініцыятары заклікалі жанчын, якія былі вымушаныя зрабіць нелегальныя аборты, паведаміць пра гэта публічна. З улікам таго, што кампанію падтрымалі такія зоркі, як актрыса Ромі Шнайдэр, акцыя мела агульнаеўрапейскі рэзананс.

Па ходу кампаніі ў Алісы Швайцэр узнікла ідэя экспарту феміністкай рэвалюцыі з Францыі на гістарычную радзіму. Яна перабралася ў Германію і мабілізавала мясцовых праціўнікаў забароны абортаў. Лічыцца, што менавіта Аліса прыдумала славуты лозунг руху за права на аборт: «Маё цела належыць мне».

Пазней яна пачала шукаць комплексны адказ на праблему прыгнёту жанчын у грамадстве. У 1975 годзе Швайцэр апублікавала нешта накшталт Маніфесту за правы жанчын, што зрабіла яе імя вядомым усёй ФРГ. Жаночы рух адназначна прызнаў яе сваім лідарам, тым больш, што характар у Алісы быў вельмі баявы. На наступны год феміністкі дабіліся першага буйнога поспеху: пад іх ціскам быў прыняты закон аб забароне палавой дыскрымінацыі пры працаўладкаванні. Тады ж Швайцэр абвясціла пра стварэнне першага ў ФРГ феміністкага часопісу «ЕММА», рэдакцыяй якога кіруе дасюль.



Нягледзячы на тое, што рэдакцыйная праца — справа руцінная, імя Алісы больш ніколі не пакідала старонкі прэсы. Пазнавальнасць ёй забяспечваюць галоўным чынам скандалы. Напрыклад, у 1978 годзе Швайцэр абвясціла вайну парнаграфіі, ахвярай якой стаў славуты часопіс «Stern», што апублікаваў здымкі цяпер ужо культавага фатографа Гельмута Ньютана. Нядаўна яна абвясціла, што ісламская хустка — гэта «вопратка ісламскіх крыжакоў». Напэўна, апошняя гучная выхадка Швайцэр мела месца ў 2009-м, калі яна выступіла ў абарону адной амерыканкі, якая адрэзала мужу пеніс за спробу згвалтавання.



Недзе з сярэдзіны 1980-х гадоў Алісу Швайцэр запрашаюць на розныя шоў або яна сама выступае як вядучая праграм на тэлебачанні. Практычна штогод яна выдае новую кнігу (усяго іх ужо 25). Швайцэр таксама можна пабачыць на розных свецкіх і палітычных раўтах. Напрыклад, парламент адной з нямецкіх зямель дэлегаваў яе на выбары прэзідэнта ФРГ. А нямецкае выданне «Bild» увогуле падпісала з ёй кантракт на ўдзел у рэкламнай акцыі.

Нягледзячы на неадназначныя ўчынкі Швайцэр, немцы прызнаюць яе заслугі. Паводле апытання 2006 года, 83 працэнты грамадзян ФРГ лічылі, што Аліса Швайцэр шмат зрабіла для абароны правоў жанчын.

А вось ці захаваецца такая папулярнасць у будучым, цяжка прагназаваць. Цяперашні скандал прымусіў па іншаму паглядзець на гісторыю поспеху вядомай феміністкі, і ўвогуле на стан цяперашняга феміністкага руху. СМІ нечакана для сябе прызнаюць, што Аліса Швайцэр узурпавала статус галоўнай феміністкі Германіі: выданне «Cicero» нават называе яе Эрыхам Хонэкерам (былы лідар ГДР) фемінізму. «Аліса Швайцэр мела манаполію на медыйнае прадстаўніцтва фемінізму ў Германіі», — кажа адзін з яе аглядальнікаў. Іншыя СМІ прапануюць тэрмінова затрымаць фраў Швайцэр, пакуль яна не збегла ў Швейцарыю ад пакарання.

Нечакана сталі вядомыя факты барацьбы Швайцэр з апазіцыяй унутры феміністкага руху. Усплылі тэксты яе прамоў, у якіх апаненты называюцца «вар'ятамі» і г.д. Апазіцыя крытыкавала Швайцэр за тое, што яна даўно з'яўляецца часткай існуючай сістэмы. Іншымі словамі, яе запрашалі на розныя ток-шоў, цудоўна ведаючы, чаго ад яе можна чакаць.

Пакуль сама Швайцэр працягвае ўпарта трымаць абарону. Яна ўжо прызналася ў тым, што мае рахунак у Швейцарыі, аднак спісала гэта на «прыватную тайну» і на трывожную атмасферу 1980-х. Быццам, пасля прыходу да ўлады партыі кансерватараў з Гельмутам Колем на чале, актывістка перапужалася за сваё жыццё і вырашыла падацца ў эміграцыю. Для чаго ёй і прыйшлося тайна стаць кліентам швейцарскага банка. Яна таксама лічыць, што публікацыя ў «Der Spiegel» замоўленая крыміналам, які перапужаўся ананасаванай Швайцэр на днях кампаніі за забарону прастытуцыі ў ФРГ.

Ва ўсёй гэтай гісторыі цікава тое, што пішуць пра ролю СМІ. Шмат хто лічыць, што якраз журналісты нясуць адказнасць за тое, што Аліса перакрочыла мяжу этыкі. Менавіта журналісты стварылі дзіўную сістэму публічнай экспертызы. Іншымі словамі, сярод рэдактараў існуе кансэнсус наконт таго, што вядучым аўтарытэтам у гэтай сферы ёсць нейкая канкрэтная асоба Х. Усе СМІ запрашаюць менавіта тую асобу ў якасці каментатара. Такая практыка нараджае дзіўную мадэль — калі тая ж Швайцэр лічылася аўтарытэтам выключна таму, што ёй цікавяцца СМІ. Такая зорнасць, быццам, і выклікала ў феміністкі неадэкватнае разуменне таго, што адбываецца за межамі студый.

Нарэшце, пачаліся спрэчкі, хто зойме вакантнае месца Алісы Швайцэр. Так ці інакш, яе сыход адчыняе новую эру ў феміністкім руху Германіі. Праўда, узнікае дадатковае пытанне — ці будуць новыя лідары лепш?

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Магчымы ўмоўна спрошчаны варыянт, калі Захад, Еўропа, аддадуць Украіну ў сферу ўплыву Расіі і скажуць: рабіце ўсё, толькі б не было вайны. Так адбылося з Беларуссю. У свой час Беларусь спрабавала гуляць з Еўропай, але потым Лукашэнка павёў сябе так, што Еўропа вырашыла: хай лепш Пуцін перад намі будзе адказны за Беларусь, а што там усярэдзіне адбываецца — гэта не важна.

**«Укррудпром» (Украіна)**

Варта сказаць, што прапаганда выразала з некаторых сюжэтаў тэлебачання сцэну, якая сапсавала звыклы «малюначак» — пазапланавы выступ віцэ-міністра Пракаповіча, што ўказаў прэзідэнту на яго пралікі з мадэрнізацыяй сістэмы кіравання. У беларускага абывацеля не павінна паўстаць і ценю падазрэння, хто насамрэч у адказе за тое, што ў дзяржпрадпрыемствы «ўбуханы» мільярды долараў, але, як прызнаў прэзідэнт, «дамадэнізаваліся» да таго, што прадукцыя не прадаецца. Усё гэта было б смешна, калі б не было так сумна. І калі нават вядомы сваёй адданасцю Лукашэнку Пётр Пракаповіч заявіў пра сістэмныя праблемы неэфектыўнай эканамічнай мадэлі, прыйшоў час казаць і пра неэфектыўнасць кіравання прэзідэнта, які амаль 20 гадоў утрымлівае ўладу ў краіне. На радыкальныя рэформы кіраўнік Беларусі відавочна не здольны, а паўмеры ўжо не дапамагаюць.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Можна адзначыць некалькі вельмі цікавых парадоксаў. З аднаго боку, улады рэспублікі на словах выступаюць аднымі з найболей актыўных сяброў Мытнага саюзу. З іншага — вышэйшыя кіраўнікі РБ досыць крытычна ўспрымаюць магчымае ўваходжанне ў Еўразійскі эканамічны саюз Арменіі і Кіргізіі, пра што неаднаразова рабіліся вельмі недвухсэнсоўныя заявы. Падкрэслім, што імкненне Кіева падпісаць дамову пра Асацыяцыю з Еўрасаюзам было ў Мінску ўспрынята ледзь не з захапленнем і апладысментамі. Яшчэ задоўга да саміту ў Вільнюсе было абвешчана, што і з такой Украінай урад Рэспублікі Беларусь будзе супрацоўнічаць яшчэ больш інтэнсіўна і плённа. Адпаведна, той патэнцыйны вал заходнееўрапейскай і сусветнай прадукцыі, якая магла б пайсці праз украінска-расійскую мяжу (і чаго не дапусціла б Масква), ірвануў бы праз беларускую «шчыліну». Гэты фінансавы струмень можна было асядлаць і шантажаваць гэтым Маскву. А вось «нечаканы», але цалкам лагічны і заканамерны зрыў падпісання гэтай дамовы ў Мінску сустрэлі разгубленасцю і зацятым маўчаннем.

**«Материк» (Расія)**

Прэм'ера фільма «Авель» прызначана на гэту восень. Але ці атрымаецца з замежным пракатам, калі ў Беларусі здымкі «Авеля» выклікалі сур'ёзную хвалю негатыву? Наўрад ці праваабаронцы і палітычныя эмігранты ўпусцяць магчымасць зладзіць «цёплы прыём» фільму пра «штосьці не так». І словы аўтараў фільму пра чалавечы выбар могуць быць растлумачаны зусім інакш, пакуль у Беларусі застаюцца палітвязні менавіта за тую Плошчу. Але, можа, у «Авеля» ёсць зусім іншая, нікім не пралічаная місія — выпіхнуць «Беларусьфільм» з вечнай каляіны фільмаў пра партызан і Вялікую Айчынную вайну.

**«RFI» (Францыя)**

Уведзены ў краінах Мытнага саюза, куды ўваходзяць Беларусь, Казахстан і Расія, збор за ўтылізацыю аўтамабіляў можа быць выгодны, першым чынам, расійскім вытворцам, мяркуюць аналітыкі. Па іх меркаванні, беларускія гандляры аўтамабілямі і вытворцы аўтамабіляў ад новага збору могуць толькі прайграць. Пагадзіўшыся на ўвод утылізацыйнага збору ў рамках Мытнага саюзу, Беларусь прадэманстравала большую зацікаўленасць у бязмытнай расійскай нафце і газе, чым у развіцці свайго аўтапраму. Беларуская тэхніка, якая прадаецца ў Расію, з-за росту коштаў на яе стала меней канкурэнтаздольнай.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. КАЛІ ПЕРАМОЖА МАЙДАН, СЦЯГ ЗМЕНЯЦЬ

Ва ўкраінскай апазіцыі прапануюць новы варыянт дзяржаўнага сцяга Украіны. У прыватнасці, з адпаведнай прапановай у сваім Twitter выступіў народны дэпутат ад партыі «Батькіўщина» Аляксандр Брыгінец. Прапанаваны ім сцяг уяўляе некалькі гарызантальных палосак сіняга і жоўтага колеру. Паласаты штандар пакуль не выклікаў захаплення сярод украінскай аўдыторыі. Больш каментатараў пішуць, што апазіцыя рана святкуе перамогу. Некаторыя жартуюць, што ў Брыгінца, напэўна, ёсць недзе завод па вытворчасці матрацаў, які зараз прастойвае. Сустракаюцца на форумах і прыхільнікі змены сімволікі, якія ўзгадваюць, што пасля перамогі рэвалюцыі ружаў у Грузіі змяніўся сцяг. Праўда, варыянт Брыгінца яны не падтрымліваюць. Найбольшай падтрымкай карыстаецца вяртанне да сімволікі Украінскай Народнай Рэспублікі (1917–1918) — жоўта-сіні сцяг. Асабліва за такую версію выступаюць аматары ўсходніх філасофій. На іх думку, колеры ўкраінскага сцяга здаўна сімвалізуюць дзве галоўныя стыхіі прыроды і чалавечага быцця — агонь (жоўты колер) і вада (сіні). Лагічна выказаць здагадку, што толькі спалучэнне «жоўты — зверху, сіні — знізу» адлюстроўвае вечную сіметрыю — гармонію гэтых стыхій. Інакш гэта будзе азначаць парушэнне светаўладкавання і катастрофу.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЕЎРОПА. ШЭНГЕНСКІХ ВІЗ ХУТКА НЕ БУДЗЕ?

Пасля таго, як на рэферэндуме 50,3% швейцарскіх выбаршчыкаў выказаліся за вяртанне да міграцыйных квотаў, у Еўропе пачаўся сапраўдны палітычны землятрус. Правыя папулісцкія партыі розных краін ЕС дружна віталі «патрыятычны чын» швейцарцаў і паабяцалі ў выніку перамогі дабіцца ідэнтычных законаў. У іншы час на такую б рыторыку ўвагі не звярнулі, аднак цяпер на двары крызіс, і электарат гатовы перакласці адказнасць за беспрацоўе на мігрантаў. Як мінімум у трох краінах (Францыя, Нідэрланды і Аўстрыя) еўраскептыкі ў топе папулярнасці. У Вялікабрытаніі еўраскептыкам сімпатызуе каля 30 працэнтаў. Сітуацыя выглядае яшчэ горш з улікам таго, што хутка адбудуцца выбары ў Еўрапарламент, на якіх, на думку экспертаў, еўрафобы могуць атрымаць аж да 25 працэнтаў. У дадатак пад антыеўрапейскімі лозунгамі ідуць на выбары некаторыя правацэнтрысцкія партыі, лідары якіх таксама віталі падзеі ў Швейцарыі. У выніку, па словах некаторых палітыкаў, узнікла сур'ёзная пагроза ліквідацыі адзінай візавай прасторы т. зв. Шэнгенскай зоны. З іншага боку, зразумела, што так проста прыхільнікі адзінай Еўропы здавацца не збіраюцца. Усе прагназуюць моцны ціск Брусэля на Жэневу з мэтай перагледзець вынікі скандальнага рэферэндуму.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. ЧАРКЕСЫ ПАТРАБУЮЦЬ ПРЫПЫНІЦЬ АЛІМПІЯДУ




З пачаткам сочынскай алімпіяды абвастрылася палітычная сітуацыя ў Чаркесіі. Справа ў тым, што Сочы, дзе праводзіцца Гульні, — гістарычная зямля чаркесаў, якую яны страцілі ў выніку расійскай каланізацыі Каўказа. Менавіта на тэрыторыі цяперашняга Сочы меў месца апошні бой чаркесаў з рускімі войскамі. У дзень пачатку гульняў прадстаўнікі дыяспары пікетавалі пасольствы Расіі ў шматлікіх краінах. А ў Нальчыку (сталіца Чаркескай аўтаноміі) адбыўся несанкцыянаваны мітынг нацыяналістычнай моладзі. Галоўныя патрабаванні маніфестантаў — прыпыніць Алімпіяду, паколькі яна адбываецца на месцы генацыду чаркескага народу. Мітынг, які сабраў каля ста чалавек, быў разагнаны паліцыяй. У выніку арыштавалі каля 30 чалавек. Некаторых з затрыманых на наступны дзень адправілі на 15 сутак. На думку наглядальнікаў, гэта не канец гісторыі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### КУБА. АНТЫКАСТРАЎСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ КАПІТУЛЯВАЛА

Як вядома, штат Фларыда — гэта, акрамя ўсяго іншага, бастыён кубінскай антыкастраўскай эміграцыі. Тут працуе славутая радыёстанцыя «Марці», якая вядзе трансляцыі на Кубу, тут дзейнічаюць цэнтры дысідэнтаў, тут у свой час нават вербаваліся кілеры, якія павінны былі забіць Фідэля. Аднак апошнім часам сярод антыкастрыстаў пачаліся цікавыя працэсы. 10 лютага шэраг кубінскіх арганізацый, якія дзейнічаюць у ЗША, некалькі дэпутатаў Сената і Кангрэсу ад штату зрабілі гучную заяву аб неабходнасці перагледзець амерыканска-кубінскія адносіны. Непасрэдна прапануецца ў самы бліжэйшы час адмяніць рэжым гандлёвага эмбарга, які дзейнічае супраць Кубы прыкладна 50 гадоў. Пакуль цяжка зразумець, што прымусіла палітэмігрантаў адмовіцца ад барацьбы з Кастра. Адна з самых цікавых версій — рост колькасці іспанамоўных амерыканцаў, якія мігруюць у Штаты з краін Лацінскай Амерыкі, дзе існуе сапраўдны культ Фідэля Кастра. Так ці інакш, упершыню з часоў кубінскай рэвалюцыі большасць грамадзян ЗША (56 працэнтаў) выступаюць за нармалізацыю кантактаў з Гаванай. Цяпер слова за адміністрацыяй Абамы. Большасць назіральнікаў лічаць, што эмігранты прынялі сваю заяву не без прэсінгу з Вашынгтону, і таму перазагрузка дыялогу з Гаванай — пытанне бліжэйшага часу.

**Паводле іспанскай прэсы**

**РАЗВАЖАННІ**

# СОЧЫ СУПРАЦЬ МАЙДАНА

*Алег НОВІКАЎ*

**Паспрабуем знайсці адказы на пытанні, як сочынская алімпіяда ўспрымаецца на Майдане і якія наступствы Гульні будуць мець для перспектывы супрацьстаяння ўлады і апазіцыі?**



Па рунэту гуляе байка пра тое, што Майдан быў прыдуманы недзе ў структурах ЦРУ для таго, каб сарваць сочынскую алімпіяду. Быццам, падзеі на кіеўскіх барыкадах павінны былі адцягнуць увагу сусветнай супольнасці ад аднаго з галоўных праектаў Пуціна.

Але, на самай справе, хутчэй, не Майдан працуе супраць Сочы, а Сочы супраць Майдану. Не дарма апазіцыйныя СМІ Украіны старанна намагаюцца нівеліраваць значэнне Сочы. «Нягледзячы на расійскі ажыятаж вакол зімовай Алімпіяды, не трэба перабольшваць значэнне спартовых спаборніцтваў па не самых папулярных відах спорту, хай і высокага ўзроўню. Большасці еўрапейцаў, не кажучы ўжо пра ўкраінцаў, глыбока індыферэнтныя праблемы канькабежцаў і кёрлінгістаў. Тым больш, што забойствы, выкраданні і катаванні пратэстуючых ва Украіне без усякіх тэрактаў зацьмілі пуцінскую Алімпіяду», — лічыць апазіцыйны канал Espreso.tv.

Дарэчы, трансляцый з Сочы на вялізарным экране, што знаходзіцца на галоўнай сцэне Майдану, не паказваюць.

Цяжка сказаць, наколькі ўкраінцы «глыбока індыферэнтныя» да Алімпіяды. Гульні ўжо адназначна ўдарылі па памерах прысутнасці Майдану ў СМІ. Напэўна, упершыню за тры месяцы (столькі цягнецца палітычны крызіс ва Украіне) Майдан не ўвайшоў у топ галоўных навін. Акрамя таго, тэлетрансляцыі пазбавілі байцоў Майдану іміджу галоўных абаронцаў гонару ўкраінскай нацыі. Цяпер гэтую ролю выконваюць спартсмены.

Дарэчы, апошнія аказаліся абсалютна абыякавымі да заклікаў апазіцыі адмовіцца ад паездкі ў Сочы. Прынамсі, зрабіць такі крок напярэдадні Гульняў заклікаў іх вядомы ўкраінскі радыкальны нацыяналіст Дзмітрый Карчынскі. «Янукові́ч — гэта часовая непрыемнасць. Масква — працяглая. Майдан павінен высунуць лозунг байкоту сочынскай Алімпіяды і заклікаць украінскіх спартоўцаў устрымацца ад удзелу ў ёй», — напісаў Карчынскі на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку». Аднак спартоўцы ідэю байкоту праігнаравалі.

Пры такіх раскладах адзінай маральнай кампенсацыяй для апазіцыі аказаўся той момант, што некаторыя сусветныя вядучыя каналы не паказалі прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча падчас урачыстага шэсця ўкраінскай зборнай на цырымоніі адкрыцця. Гэта акалічнасць шмат мусіруецца на апазіцыйных сайтах, хаця палітычны ККД гэтага казусу цалкам не зразумелы: відавочна, што ўкраінскія заўзятары глядзелі трансляцыю мясцовых каналаў, дзе Януковіч махаў сіне-жоўтым сцягам.

Яшчэ адзін папулярны апазіцыйны тэзіс пра тое, што ў Сочы ў перапынках паміж спаборніцтвамі адбываюцца кансультацыі наконт будучага Украіны. «Пуцін у Сочы сустракаецца з вельмі саслабленым Януковічам. У першую чаргу, гаворка ідзе пра фармаванне Кабінета міністраў Украіны, без якога ні Расія, ні Захад не адкрыюць ураду крэдытнай лініі. Адна з тэм перамоў прэзідэнтаў — фармаванне новага Кабміну, у якім у якасці прэм'ера расійскі прэзідэнт жадаў бы бачыць Віктара Медведчука (кум Пуціна, лідар прарасійскага руху «Украінскі выбар»). Пуцін, як чакаецца, будзе настойваць на больш радыкальных дзеяннях супраць украінскай апазіцыі», — такую версію рандэву Януковіча і Пуціна агучыў палітолаг Тарас Беразовец. Версія вельмі спрэчная, паколькі Медведчук лічыцца сярод украінскай эліты палітычным маргіналам.

Тое, што апазіцыя ідэйна праіграе Сочы, звязана і з тым, што Алімпіяда пачалася не ў лепшы для яе час. Зараз нічога цікавага на Майдане не адбываецца і, адпаведна, прэс-рэлізы праціўнікаў Януковіча рабіць канкурэнцыю трансляцыям з Гульняў не здольныя.

Увогуле, апошнім часам прэса шмат піша больш пра канфлікты ўнутры Майдану. Кааліцыя дэмакратаў не дасягнула згоды па спісу патрабаванняў да ўлады. Той жа Цягнібок рашуча супраць вяртання да парламенцка-прэзідэнцкага варыянту канстытуцыі. Назіраецца супрацьстаянне па лініі Яцанюк — Клічко вакол пытання, хто павінен узначаліць пераходны ўрад. Адначасова суб'ектамі перамоўнага працэсу намагаюцца стаць і іншыя прысутныя на Майдане палітычныя гульцы, напрыклад, праварадыкальная групоўка «Правы сектар».

Увогуле, з улікам таго, што адначасова ў правінцыі апазіцыянеры пачалі вызваляць раней захопленыя будынкі абласных адміністрацый (у штатным рэжыме не працуе выключна адміністрацыя ў Цярнопалі і часткова ў Львове), можна казаць пра тое, што ініцыятыва знаходзіцца на баку ўлады. Гэта звязана таксама з тым, што на Захадзе патрабуюць, каб апазіцыя ўзяла дыстанцыю ад радыкалаў, што фактычна значыць для «тытушак» (так называюць у народзе Яцэнюка, Цягнібока і Клічко) палітычную смерць.

У сваю чаргу, улада часам яўна штучна намагаецца супрацьставіць Сочы Майдану.

Адноснае падзенне інтарэсу грамадскасці да Майдану з-за сочынскага шоў яшчэ раз дэманструе ролю СМІ і дынамікі падачы інфармацыі для падтрымкі адпаведнага тонусу спажыўца гэтай інфармацыі. Таксама зразумела, што спажыванне аўдыторыяй аднаго сюжэту ў выпусках навінаў абмежаванае ў часе. Таму зацягнутая эпапея Майдана так ці інакш штурхае абывацеля шукаць новыя тэмы, адной з якіх стала Алімпіяда.

Аднак трэба прызнаць, што інфармацыйная вайна Майданам яшчэ не прайграная. Гэта звязана з тым, што ўсе чакаюць новую фазу адкрытай канфрантацыі. Умоўна яна пачнецца пасля 16 лютага, калі закончыцца тэрмін дзеяння Закону аб амністыі. Паводле таго Закону, апазіцыя ў абмен на амністыю сваім актывістам, супраць якіх былі распачатыя крымінальныя справы па розных артыкулах, павінна вызваліць шэраг акупаваных будынкаў.

Але цяпер ужо зразумела, што захопленыя аб'екты вызвалены не будуць. Праціўнікі Януковіча, наадварот, актыўна спрабуюць дыктаваць уладзе свае патрабаванні: спачатку поўная амністыя, а пасля ўжо вызваленне аб'ектаў, легалізацыя парамілітарных структур, адстаўка прэзідэнта. Такая пазіцыя выкліканая шэрагам фактараў, у тым ліку версіяй пра тое, што менавіта бойка на Грушэўскага прымусіла ўладу адмяніць драконаўскія паліцэйскія законы 16 студзеня. Шмат хто на Майдане зноў рвецца ў бой, перамога ў якім, аднак, — вельмі сумнеўная рэч. Як прызнаўся мне адзін са сталых рэзідэнтаў Майдану, больш за 500–700 паўстанцаў у выпадку адкрытага бою з Беркутам апазіцыя не выставіць.

Так ці інакш, пасля 16-га на Майдане могуць пачаць кіпець такія эмоцыі, што гульні Сочы будуць падавацца нейкай дзіцячай спартакіядай.

РЭФОРМА

# ВАЙНА З КАНЧАТКАМІ ПРЫВЯЛА ДА ДЭФОЛТУ

Алег НОВІКАЎ

**Пакуль казахі спрабавалі зразумець, што за муха ўкусіла іхняга гаранта выступіць з ідэяй перайменавання дзяржавы, у краіне адбыўся дэфолт.**



6 лютага Нурсултан Назарбаеў наведаў Атыраўскую вобласць. Знешне працоўная паездка прэзідэнта стала гістарычнай падзеяй. Елбасы прапанаваў змяніць назву краіны. Краіна, на яго думку, павінна называцца «Казах Елі» (па-казахску «Зямля Казахаў»). «У назве нашай краіны ёсць канчатак «стан» — як і ў іншых дзяржаў Цэнтральнай Азіі. У той жа час замежнікі выяўляюць цікавасць да Манголіі, насельніцтва якой складае ўсяго два мільёны чалавек, пры гэтым у яе назве адсутнічае канчатак «стан». Магчыма, трэба разгледзець з часам пытанне пераходу на назву нашай краіны «Казах Елі», але перш варта абавязкова абмеркаваць гэта з народам», — цытуюць Назарбаева шматлікія СМІ.

Гэта не першая прапанова змены назвы. У 2011 годзе з'яўляліся паведамленні пра тое, што казахскія гісторыкі прапанавалі называць краіну як «Казакстан» — гэта значыць «краіна вольных». А ў сакавіку 2013-га ў інтэрнэце з'явілася ініцыятыва аднаго з казахстанскіх блогераў пра пераназванне краіны «з мэтай паляпшэння дзяржаўнага іміджу і забеспячэння прытоку турыстаў і інвестыцый». У прыватнасці, прапанавалася называць дзяржаву Казакстан Ардасы, або Казахская Арда.

Афіцыйныя СМІ ініцыятыву Назарбаева актыўна падтрымалі. «Пераназванне Казахстана можа даць пазітыўныя вынікі. Такім чынам, краіна прыцягне да сябе ўвагу ўсяго свету. Людзі ў шматлікіх краінах адгукаюцца на гучныя ініцыятывы Казахстана, што з'яўляецца добрым момантам», — піша флагман казахскага афіцыёзу «Казправда». Натуральна, падтрымала ідэю і прыдворная інтэлігенцыя. «Стан»— гэта значыць «прыстанак, які мае часовы характар». Калі казахі вырашылі, што вандраваць ім больш няма куды, то можна пераназваць «стан» у «краіну», — мяркуе адзін з яе прадстаўнікоў. Былы намеснік міністра адукацыі і экс-дэпутат парламента Мурат Абенаў назваў прапанову Назарбаева «марай шматлікіх пакаленняў».

Вялікая колькасць каментатараў звязвае ініцыятыву Назарбаева з яго маніяй перайменоўваць усё, што толькі магчыма. За апошнія гады краіна перажыла сапраўдную тапаграфічную рэвалюцыю, калі савецкія назвы гарадоў былі перароблены на казахскі лад. Напрыклад, Сяміпалацінск стаў Семеем. Нягледзячы на тое, што казахская сталіца тройчы мяняла назву, дасюль перыядычна з'яўляюцца чуткі пра тое, што хутка Назарбаеў зноў назаве яе па-новаму. «Давайце Назарбаева пераназавём, калі ўжо ўсё пераназываюць. Прапаную нават конкурс зладзіць!» — жартуюць блогеры на форумах казнэту.

> «Лічыце, што сёння ўрад выкраў у вас больш 20% вашых пенсійных адлічэнняў, вашых заробкаў, а вы ўсё пра нейкі міфічны Казах Елі спрачаецеся», — піша адзін з каментатараў

Вялікая фракцыя грамадзян Казахстану лічаць, што «Казах Елі» гучыць не вельмі мілагучна. «Я грамадзянін Казах Елі. Адкуль прыехалі — з Казах Елі. Гэта не гучыць. Калі я кажу, што я казахстанец, усім усё зразумела», — абураецца адзін з апанентаў рэформы.

Трэба ўзгадаць рэакцыю на заяву Назарбаева ў колах расійскіх філолагаў. Аматары рускай мовы даўно вядуць вайну з філолагамі некаторых былых рэспублік, якія патрабуюць, каб у Расіі назву іх краіны пісалі так, як і на радзіме. Напрыклад, «Беларусь», а не «Белоруссия». А Назарбаеў увогуле паставіў гэтую тусоўку на вушы. Атрымліваецца, што Казахстан давядзецца называць «Зямля казахаў», або ўвогуле «Казахскі народ» (так некаторыя перакладзяць Казах Елі). Пакуль расійскія мовазнаўцы не прыдумалі, што рабіць у выпадку, калі Назарбаеў сапраўды зменіць назву сваёй краіны.

Як і трэба было чакаць, дружна выступілі супраць перайменавання арганізацыі рускамоўных грамадзян Казахстану, якія традыцыйна арыентуюцца на Маскву. На іх сайтах можна наткнуцца на меркаванні наступнага зместу: «Фармулёўка «Казах Елі» хавае ў сабе некаторыя этычныя праблемы, паколькі яна кажа пра тое, што гэта дзяржава казахаў, а не нейкага іншага этнасу. А ў Казахстане пражывае шмат іншых нацыянальнасцяў. Нехта бачыць тут талерантнасць? А можа адзінства? У наяўнасці відавочная дэманстрацыі ролі дамінантнай нацыі».

Як не дзіўна, аднак нацыяналісты ў большасці выступілі супраць пачыну гаранта. На іх думку, назва Казах Елі — вельмі архаічная і па сутнасці стварае апраўданне для ліквідацыі рэспубліканскага ладу і пераходу да адкрытай манархіі. Увогуле, для апазіцыі актыўнасць Назарбаева ў галіне тапаграфіі стала добрай падставай для крытыкі рэжыму. Апазіцыйнае выданне «Рэспубліка» адзначае: «Пераназванне звычайна нясе ў сабе вялікія фінансавыя выдаткі, лепш гэтыя сродкі накіраваць на ўздым эканомікі, на паляпшэнне дабрабыту народа — паменшыць інфляцыю, кошт камунальных, транспартных паслуг, зрабіце медыцыну бясплатнай, падніміце пенсію, зарплату лекарам, настаўнікам і інш. Хопіць займацца «голымі рэформамі».

Развязка гісторыі з Казах Елі аказалася абсалютна непрадказальнай. 11 лютага ў краіне адбыўся дэфолт. Тэнге — мясцовая грашовая адзінка — дэвальваваўся на 20 працэнтаў. Пры гэтым, калі меркаваць па змесце інтэрнэт-форумаў, шмат хто, абураючыся дэфолтам, лічыць абавязковым узгадаць і пнуць Казах Елі, з якой так заўзята ўрад насіўся замест таго, каб заняцца больш актуальнымі праблемамі. «Лічыце, што сёння ўрад выкраў у вас больш 20% вашых пенсійных адлічэнняў, вашых заробкаў, а вы ўсё пра нейкі міфічны Казах Елі спрачаецеся», — піша адзін з каментатараў. А вось думка іншага блогера: «Тэнге ўсё ж паваліўся. Можа, лепш не назву краіны змяняць, а памяняць валюту?»

Сітуацыю ў Казахстане каментуе для «Новага Часу» праваабаронца Андрэй Грышын з Алма-Аты: «Тое, што дэфолт практычна супаў з істэрыкай вакол Казах Елі, фактычна пахавала праект. Цяпер любое развіццё ініцыятывы будуць успрымаць як спробу адвесці ўвагу ад праблем эканомікі. Змены назвы не будзе. Верагодна, хутка для кампенсавання незадаволенасці адбудуцца пазачарговыя парламенцкія выбары. Пакуль што ўсё ідзе да гэтага. Валюты ў абменніках няма, шматлікія супермаркеты сёння не працуюць, плёткі ходзяць самыя неверагодныя. І гэта толькі пачатак — на наступным тыдні ўздымаюцца на сто працэнтаў кошты на моцны алкаголь, што яшчэ больш павысіць градус напружанасці ў грамадстве».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### УЛАДЗІМІР ПЛІГІН



Старшыня камітэта Дзяржду-мы Расійскай Федэрацыі па канстытуцыйным заканадаўстве і дзяржбудаўніцтву пазнаёміў грамадскасць са зместам праекту новага закону пра выбары ў Дзяржаўную думу. Па сутнасці, праект ставіць фільтр для створаных апошнім часам партый. Нагадаем, што пасля моцных грамадскіх пратэстаў у 2012 годзе Крэмль пагадзіўся на лібералізацыю працэсу рэгістрацыі новых партый. Для атрымання пасведчання пра рэгістрацыю аргкамітэту аб стварэнні партструктуры цяпер дастаткова 500 сяброў. Не дзіўна, што партыі ў Расіі цяпер нараджаюцца як грыбы падчас дажджу. Аднак, згодна з праектам, шансаў трапіць у федэральныя заканадаўчыя органы ў неафітаў практычна няма. Для гэтага ім патрэбна мець як мінімум аднаго дэпутата ў абласных саветах суб'ектаў РФ. Тым, хто такіх дэпутатаў не мае, давядзецца збіраць 200 тысяч подпісаў. Прычым ёсць жорсткая ўмова — больш за 7 тысяч подпісаў у адным рэгіёне збіраць нельга, што ставіць крыж на амбіцыях палітычных ліліпутаў. Правесці збор подпісаў у 30 суб'ектах РФ яны стоадсоткава не здольныя. Такім чынам, на выхадзе мы маем наступную статыстыку — з 25 зарэгістраваных у Расіі партый шанцы на ўдзел у наступных выбарах у Дзяржаўную думу атрымаюць акрамя цяперашніх думскіх партый («Адзіная Расія», «Справядлівая Расія», ЛДПР, Кампартыя наступныя фармаванні — «Яблоко», «Родина», «Патрыёты Расіі», «Пенсіянеры — за справядлівасць», «Правое дело», «Грамадзянская платформа» і «Камуністы Расіі».

### ФРАНСУА АЛАНД



Любоўныя прыгоды прэзідэнта Францыі, як вядома, каштавалі яму разрыву адносін з грамадзянскай жонкай — Валеры Трыервейлер, якая ў студзені дэманстратыўна пакінула Елісейскі палац (рэзідэнцыя французскіх прэзідэнтаў). Адбылося гэта напярэдадні афіцыйнага візіту Аланда ў ЗША, што паставіла дыпламатычную службу ў Вашынгтоне ў тупік. Справа ў тым, што ў праграме візіту значыцца абавязковая афіцыйная вячэра госця ў Белым доме. Пратакол патрабуе, каб за сталом стул каля прэзідэнта ЗША быў абавязкова забраніраваны за жонкай госця. У выніку давялося праводзіць кастынг кандыдатаў, якія могуць замяніць Валеры. Перамагла ў незвычайным конкурсе Тэльма Голдэн, дырэктар музею сучаснага мастацтва з Нью-Ёрка. Цяжка сказаць, чым кіраваліся амерыканцы, калі зрабілі выбар на карысць Тэльмы, якая, дарэчы, замужам. Праўда, на афіцыйную фотасесію яе ўсё роўна не пусцілі. Адным словам, усё для Аланда, здавалася, ішло нармальна, пакуль у разгар візіту з Францыі не прыйшла шакуючая навіна. Вядомы порна-партал Youporn прапанаваў Валеры стаць т. зв. афіцыйным паслом кампаніі. Свой выбар порнабізнэсмэны тлумачаць тым, што Валеры з'яўляецца сімвалам незалежнай і моцнай жанчыны (як вядома, яна, будучы маці трох дзяцей, сама зарабляла сабе на жыццё як вядучая каналу ТБ). Калі экс-першая лэдзі Францыі пагодзіцца на незвычайную працу, гэта, на думку наглядальнікаў, рыкашэтам ударыць па іміджы Аланда.

### ХАЙМЭ МАЁР АРЭХА



Лідар групы дэпутатаў ад іспанскай кансерватыўнай Народнай Партыі (PP) у Еўрапарламеце ўзначаліў бунт супраць партыйнага лідара Марыяна Рахоя, які таксама кіруе ўрадам Іспаніі. Непасрэдна Арэха патрабуе ад Рахоя перагледзіць спіс кандыдатаў ад партыі на майскія выбары ў Еўрапарламент, пагражаючы ў іншым выпадку пакінуць партыю, і нават заснаваць свой праект, які ў партыйным спектры будзе знаходзіцца правей за PP. Пагрозы вельмі сур'ёзныя, паколькі Арэха звязаны з былым прэм'ерам і вельмі аўтарытэтным правым палітыкам Хасэ Азнарам. Галоўным чынам правая апазіцыя ў PP крытыкуе Рахоя па наступных пунктах: слабая рэакцыя на факты карупцыі ўнутры апарату PP, пасіўнае стаўленне да сепаратысцкага працэсу ў Каталоніі, якая плануе на верасень рэферэндум аб выхадзе са складу Іспаніі, неэфектыўная адаптацыя ўсіх інструкцый Еўраструктур па выхаду іспанскай эканомікі з крызісу. Быццам, усё гэта разам прывяло да таго, што рэйтынг кансерватараў за апошні час упаў да 30 працэнтаў. На думку наглядальнікаў, канфлікт унутры PP быў прагназаваны, паколькі PP — унікальная партыя, якая доўгі час умудралася аб'ядноўваць пад адным дахам як правацэнтрыстаў, так і праварадыкалаў-постфранкістаў. Пытанне ў тым, ці хопіць у Рахоя волі і рэсурсу падавіць мяцеж.

АСІМІЛЯЦЫЯ

# ЯК З БЕЛАРУСАЎ РАБІЛІ ПАЛЯКАЎ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У сакавіку 1921 года значная частка беларускіх зямель апынулася ў складзе Польшчы. Рыжскі мір канчаткова пахаваў федэрацыйную канцэпцыю Юзафа Пілсудскага. Польскія ўлады ўзялі курс на паланізацыю і асіміляцыю ўсходніх тэрыторый.**

## Каталікаў — у палякі, праваслаўных — пад кантроль

Падчас усеагульнага перапісу насельніцтва ў Польшчы ў 1921 годзе вялікая колькасць «палешукоў» не змагла акрэсліць сваю нацыянальнасць. Праз 10 гадоў, у 1931-м, падчас чарговага перапісу амаль 707 тысяч жыхароў Палескага ваяводства сваёй мовай назвалі «тутэйшую».

Такая сітуацыя была на карысць Варшаве. У адным са сваіх выступленняў у кастрычніку 1923 года прэзідэнт Гродна Станіслаў Вайцэхоўскі адзначаў, што «роля Польшчы і палякаў заключаецца ў прасоўванні на Усход святла еўрапейскай цывілізацыі». Галоўны цяжар асіміляцыйнай палітыкі прыпадаў на славянскія меншасці — беларусаў і ўкраінцаў. Што тычыцца яўрэяў, то польскі ўрад стымуляваў эміграцыю гэтай групы насельніцтва з тэрыторыі Польшчы ў іншыя краіны.

У варшаўскіх афіцыйных колах разумелі, што, нават улічваючы слабасць нацыянальнай свядомасці сярод насельніцтва паўночна-ўсходніх ваяводстваў, у бліжэйшай перспектыве не атрымаецца цалкам ліквідаваць нацыянальную ідэнтычнасць беларусаў на «крэсах». Пра гэта ў сваіх працах пісалі не толькі афіцыйныя чыноўнікі (напрыклад, супрацоўнік польскага МЗС Міраслаў Арцішэўскі), але і навукоўцы.

У выдадзенай у 1924 годзе працы «Нацыянальныя справы на крэсах усходніх» Канстанты Скракоўскі абвінавачваў польскія ўлады ў тым, што, «праводзячы жорсткую асіміляцыйную палітыку, Варшава нічога не робіць для паляпшэння эканамічнага становішча нацыянальных меншасцяў, якія пражываюць на ўсходзе краіны». Даследчык адзначаў: было б няправільным сцвярджаць, што беларускі народ не меў пачуцця сваёй нацыянальнай агульнасці. Наадварот, паўсюль сярод беларусаў можна было ўбачыць высокі ўзровень рэлігійных і сацыяльна-класавых ведаў.

Тагачасныя польскія даследчыкі і публіцысты адзначалі небяспеку радыкалізацыі беларускага нацыянальнага руху і пазначалі неабходнасць захавання кантролю над працэсам нацыянальнай эмансіпацыі беларусаў. Каталікаў польская вертыкаль паўсюдна залічвала да палякаў, а вось праваслаўных беларусаў трэба было скіраваць у пажаданым для Варшавы накірунку.

Пры гэтым кіраўніцтва II Рэчы Паспалітай разумела неабходнасць недапушчэння беларусізацыі Вільні. У сваю чаргу, дзейнасць беларускіх дзеячаў Віленшчыны, а таксама беларускіх дэпутатаў Сейма, павінна была знаходзіцца пад татальным кантролем. Апошніх Варшава абвінавачвала ў выкарыстанні праблем у польскай эканоміцы для атрымання палітычных дывідэндаў і антыдзяржаўнай прапаганды.



Мільён палешукоў будзе бараніць мора. Патрыятычная маніфестацыя напярэдадні Другой сусветнай вайны

## Школа як сродак паланізацыі

Палескі ваявода Станіслаў Даўнаровіч у сярэдзіне 1920-х гадоў адстойваў ідэю стварэння з Палесся сваістай памежнай тэрыторыі, якая аддзеліць украінскі этнас ад беларусаў. Паводле яго меркавання, «беларускімі» былі Віленскае і Навагрудскае ваяводства, але ў Палескім ваяводстве дамінавалі «тутэйшыя», якіх не магчыма было аднесці да якога-небудзь народу, таму польскія ўлады павінны былі выкарыстаць гэтую сітуацыю на сваю карысць.

Значную ролю ў працэсе выхавання лаяльных польскіх грамадзян адыгрывала польская школа. З моманту заканчэння вайны з савецкай Расіяй кіруючыя колы Другой Рэчы Паспалітай зрабілі акцэнт на развіццё школ на ўсходніх ваяводствах. Галоўнай задачай гэтых устаноў было выхаванне ў беларускіх, яўрэйскіх, украінскіх дзяцей польскай нацыянальнай свядомасці.

У канцы 1920-х гадоў цыркулярам міністра веравызнанняў і адукацыі настаўнікам прадпісвалася ведаць мову мясцовага насельніцтва і карыстацца ёй у размове з дзецьмі. З цягам часу паланізацыйныя працэсы канчаткова знішчылі рэгіянальныя асаблівасці ў польскай школе, а настаўнікі ці супрацоўнікі лясной аховы, якія карысталіся на працы мясцовымі дыялектамі, часцей за ўсё звальняліся з працы.

Да таго ж варта падкрэсліць, што дзяцей няпольскага паходжання абмяжоўвалі ў магчымасці атрымання далейшай адукацыі. Маўляў, чатыры класы пачатковай школы хопіць, каб працаваць у полі. Адказам на гэта былі ўцёкі заходніх беларусаў у БССР. У Саўдэпіі маладыя палешукі шукалі не толькі лепшай долі, але і спадзяваліся атрымаць адукацыю, якую не давала ім панская ўлада.

Да прыкладу, па матэрыялах камандавання Карпусной акругі IX, з чэрвеня 1937 па жнівень 1938 года ўцячы ў БССР спрабавалі 438 жыхароў Палескага ваяводства, з якіх 150 былі затрыманыя, а 24 вярнуліся дадому. Большасць тых, хто ўсё ж здолеў перасекчы польска-савецкую мяжу, пазней патрапіла ў рукі савецкіх рэпрэсіўных органаў.

## Войска рыхтуе грамадзян

У выхаванні польскіх грамадзян з жыхароў Заходняй Беларусі важную ролю адыгрывалі і вайсковыя арганізацыі. Тут варта вылучыць Корпус аховы памежжа (КАП), у задачы якога ўваходзіў не толькі кантроль за памежнай дысцыплінай, але і правядзенне розных культурна-выхаваўчых мерапрыемстваў для мясцовага насельніцтва. Да памежнікаў далучаліся і супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі, якія з дапамогай сваіх структур (напрыклад, Таварыства «Паліцэйская сям'я») спрабавалі арганізоўваць культурна-масавыя мерапрыемствы ва ўсходніх ваяводствах. Важную ролю адыгрывалі і іншыя арганізацыі («Саюз польскага харцэрства», «Стралецкі саюз») ды іншыя).

Адну з галоўных роляў у падрыхтоўкі з беларусаў годных грамадзян II Рэчы Паспалітай адыгрывала войска. У шматлікіх штабных справаздачах захаваліся ўспаміны пра неабходнасць ідэалагічнай працы сярод беларусаў.

Нарэшце, важную ролю адыгрывала польскае вайсковае асадніцтва, якое было адным з галоўных цэнтраў польскасці сярод грамадства паўночна-ўсходніх ваяводстваў. Дарэчы, пытанне павялічэння колькасці этнічных палякаў на ўсходніх ускраінах асабліва актуальнае стала ў другой палове 1930-х гадоў. У 1936 годзе камандуючы IX карпуснай акругай брыгадны генерал Чэслаў Ярнушкевіч адзначаў, што ў Навагрудскім, Баранавіцкім і Слонімскім паветах назіраецца «небяспечная экспансія няпольскіх этнічных элементаў». Гэта, па меркаванні генерала, магло прывесці да абвастрэння сітуацыі ў выпадку вайны з СССР.

У 1938 годзе, пасля далучэння Цешынскай Сілезіі да Польшчы, сярод жыхароў Палескага ваяводства пачалі хадзіць чуткі, што хутка Савецкі Саюз далучыць да сябе Палессе. Аднак напярэдадні нападзення Германіі на Польшчу, большасць жыхароў Заходняй Беларусі прадэманстравала патрыятычны настрой у дачыненні да польскай дзяржавы. Яскравым прыкладам было, напрыклад, тое, што калі ў некаторых мясцовасцях Пінскага павету мабілізацыйныя карты атрымалі толькі рэзервісты каталіцкага веравызнання, вялікая колькасць праваслаўных беларусаў выказалася, каб у Войска Польскае заклікалі не толькі «палякаў», але і іх, бо яны таксама жадаюць бараніць сваю Айчыну.

## Палепшыць эканамічнае становішча на «крэсах»

Пасля майскага перавароту 1926 года ўсю ўладу ў Польшчы зноў сканцэнтраваў у сваіх руках Юзаф Пілсудскі. Шмат хто з прадстаўнікоў нацменшасцяў спадзяваўся на вяртанне да федэрацыйнай канцэпцыі «начальніка дзяржавы», аднак гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся. У вачах санацыйных улад беларусы былі нацыянальным элементам, праз які ўсходні сусед прасоўвае ў Польшчу камуністычныя ідэі.

Варшава нават не разважала наконт магчымасці ўвядзення нейкай аўтаноміі ў Заходняй Беларусі, але скіравала ўвагу на паляпшэнне эканамічнага становішча ў гэтым рэгіёне. Перш за ўсё, планавалася арганізаваць збыт сельскагаспадарчых прадуктаў і стымуляваць развіццё прыватных сельскіх гаспадарак. Аднак сусветны эканамічны крызіс пачатку 1930-х гадоў вельмі балюча ўдарыў па эканоміцы Польшчы і аказаў негатыўны ўплыў на жыццё ў тым ліку і заходнебеларускіх ваяводстваў.

З дапамогай газет польскія ўлады спрабавалі пераканаць, што за мяжой, у Саўдэпіі, яшчэ горш, але заходнія беларусы ўспрымалі гэта як звычайную «панскую» прапаганду. Яны працягвалі верыць, што ў БССР сяляне і працоўныя жывуць лепей. Акрамя перыядычных выданняў, польская адміністрацыя рабіла стаўку на выкарыстанне радыё ў якасці сродку захавання насельніцтва Заходняй Беларусі пад сваім уплывам. У 1938 годзе адбылася зачыненая канферэнцыя з удзелам камандавання Карпусной акругі IX, кіраўніцтва Палескага ваяводства, прадстаўнікоў адукацыйных устаноў, на якой абмяркоўваліся перспектывы развіцця новай радыёстанцыі ў Баранавічах.

Аднак без «перагібаў» не абышлося і тут. Чыноўнікі выступілі за тое, каб у перадачах выкарыстоўвалася толькі польская мова, таму што, нібы, «тутэйшая» мова не зразумелая для беларусаў на Навагрудчыне, а беларуская, наадварот, выклікае праблемы з разуменнем у палешукоў. Такое рашэнне было скіравана на паступовую паланізацыю насельніцтва заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай.

## Паланізацыя супраць украінізацыі

Вынікі перапісу насельніцтва 1931 года на Палессі дазволілі польскай адміністрацыі (ваяводам у той час быў Вацлаў Костэк-Бярнацкі) падзяліць Палескае ваяводства на ўчасткі, якія засялялі беларусы і... «тутэйшыя». Апошнія ва ўспрыняцці Варшавы былі той масай, якую паступова можна было б асіміляваць і ператвараць у «сумленных польскіх грамадзян». Разам з гэтым, адміністрацыя ваяводства была вельмі занепакоеная «экспансіяй украінскага нацыяналізму ў беларускім Палессі».

Варта разумець, што гэта адбывалася, дзякуючы папушчальніцтву саміх палякаў. На пачатку 1920-х гадоў яны дазволілі пачаць лагодную «ўкраінізацыю левага берагу Прыпяці», звязаную з рас-


Палешукі

паўсюдкваннем украінскай мовы ў мясцовых школах, у тым ліку ў Столінскім і Лунінецкім паветах.

Паступова ўкраінскія ўплывы распаўсюджваліся і на іншыя бакі жыцця. Напрыклад, у 1925 годзе ў Кобрыне быў адчынены Украінскі акцыянерны банк. Праз некаторы час, з ініцыятывы ўкраінскай грамадска-адукацыйнай арганізацыі «Прасвіта», украінскі банк з'явіўся ў Брэсце.

На Палессі сталі развівацца ўкраінскія кааператывы, якія акрамя эканамічных спраў займаліся і грамадска-культурнай праблематыкай. Паступова на гэтыя арганізацыі пачаў аказваць уплыў украінскі нацыяналістычны рух, што выклікала рэпрэсіі з боку польскіх улад. З асцярогай Варшава пазірала і на распаўсюджванне грэка-каталіцкай царквы ў Заходняй Беларусі. У дзейнасці ўніятаў палякі бачылі небяспечны інструмент украінізацыі насельніцтва Палесся. Апагеем барацьбы палякаў з украінскім уплывам у Заходняй Беларусі была ліквідацыя, па рашэнні палескага ваяводы ў 1938 годзе, прадстаўніцтва таварыства «Прасвіта» ў Брэсце.

## Падманлівае заспакаенне

В 1935 годзе пры Савеце Міністраў II Рэчы Паспалітай быў створаны Камітэт па нацыянальных справах, які, аднак, не надаваў вялікай увагі «беларускаму пытанню». У тым жа годзе ў Міністэрстве ўнутраных спраў была падрыхтавана справаздача, у якой пазначалася, што неабходнасці выпрацавання спецыяльнай стратэгіі дзеля збліжэння паўночна-ўсходніх ваяводстваў з дзяржавай не існавала. Варшава спадзявалася на мясцовую адміністрацыю і працэсы асіміляцыі і паланізацыі, якія адбываліся ў гэтым рэгіёне. Маўляў, два, тры пакаленні — і з «тутэйшых» будуць выхаваны сапраўдныя палякі.

У канцы 1930-х гадоў польскі ўрад перастрахаваўся і адмовіўся ад распаўсюджвання дзейнасці Таварыства заградовай шляхты ў паўночна-ўсходніх ваяводствах, каб дадаткова не падкрэсліваць падзел у заходнебеларускім грамадстве на палякаў-шляхту і беларусаў-сялян.

Аднак праблем усё роўна хапала. Выхадцаў з Заходняй Беларусі стараліся не дапускаць да пасад у мясцовай вертыкалі. Тлумачылася гэта тым, што «сярод беларускага этнасу» былі вельмі распаўсюджаныя камуністычныя ідэі. У Палескім ваяводстве адбывалася паланізацыя праваслаўнай царквы. Пры падтрымцы архіепіскапа Пінска-Палескага Аляксандра ваявода Вацлаў Костэк-Бернацкі ўвёў забарону на выкарыстанне іншых моў, акрамя польскай, у царкоўных набажэнствах, а ў метрыкальных кнігах загадаў запісваць людзей на польскі манер…

***

З-за курса на асіміляцыю і паланізацыю палякі ва ўсведамленні звычайных беларусаў заставаліся «расай гаспадароў». Сітуацыю пагаршалі не толькі памылкі Варшавы, але і савецкая прапаганда, якая ўводзіла ў вушы братоў з захаду бальшавіцкія ідэалагемы і прымушала іх верыць, што ў БССР для беларусаў створаны рай. Верасень 1939 года ўсё расставіў на свае месцы.

ЦІКАВА

# СЛОНІМЕЦ, ЯКІ РЭСТАЎРЫРУЕ КАРАН

Сяргей ЧЫГРЫН

**Сулейман Байрашэўскі — грамадскі і рэлігійны актывіст, імам-старшыня аб'яднання мусульман Слонімшчыны, былы намеснік муфція Беларусі. А яшчэ — выдатны чалавек, добры знаўца гісторыі роднага краю, гісторыі татарскага руху ў Беларусі, сардэчны беларускі мусульманін.**



Сулейман Байрашэўскі

Сулеймана Байрашэўскага мы ў Слоніме шчыра называем Сулейман Мацвеевіч. Нават і не верыцца, што гэтаму фізічна моцнаму і па-армейску падцягнутаму чалавеку ўжо 70 гадоў. Мне здаецца, што яму значна менш. Знешне для мяне ён застаецца такім, якім быў тады, калі я з ім пазнаёміўся дзесьці ў пачатку 1990-х гадоў.

## Мячэць

Пра гісторыю татараў у Беларусі Сулейман Байрашэўскі можа распавядаць доўга. Таму што гэту гісторыю стваралі і яго далёкія і блізкія продкі. А пра Слонім і слонімцаў ён заўсёды расказвае з радасцю і нават нейкай балючай настальгіяй. «У гэтым доме некалі жыў мой дзед. А вось тут былі бабуліны агароды, там — цётчыны, а там стаяла старая мячэць. Яе перад адступленнем спалілі немцы ў 1944 годзе. Мячэць стаяла на былой Татарскай вуліцы, цяпер гэта вуліца Кірава. На ёй сёння жыве пару татарскіх сем'яў. А перад Другой сусветнай вайной у Слоніме налічвалася аж 600 татараў. На жаль, татараў са Слоніма прымусова высялялі тры разы: у 1929, 1944 і ў 1946 гадах», — распавядае Сулейман Байрашэўскі.

Мы непрыкметна падыходзім да ладнага аднапавярховага будынка з паўмесяцам на даху. Гэта слонімская мячэць. Яна адкрыла свае дзверы для слонімскіх мусульман летам 1994 года. «Адкрыць мне тады дапамог былы старшыня беларускага парламенту Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, — успамінае Сулейман Мацвеевіч. — Я напісаў яму ліст, расказаў пра слонімскіх татараў, пра іх лёс і пра гэты будынак. Ён даў загад аддаць будынак мясцовай суполцы мусульманаў. Так нам і дастаўся гэты будынак».

Зімой мячэць не ацяпляецца, бо сёння вельмі дорага каштуе гэтая паслуга. Тым не менш, кожную пятніцу а 13 гадзіне адданыя вернікі-мусульмане спяшаюцца ў мячэць. Яны па-ранейшаму разам, абшчынай, хоць невялікай, але заўсёды спраўляюць свае святы — то Курбан-байрам, то Рамадан-байрам і г.д. Працуе і нядзельная школка, дзе вывучаецца арабская мова, гісторыя ісламу, праводзіцца розныя мерапрыемствы і ў мячэці, і ў іншых месцах Слонімшчыны. І гэта дзякуючы Сулейману Байрашэўскаму.

Родам Сулейман Мацвеевіч са Слоніма. Пасля школы паступіў у ваеннае вучылішча, шмат займаўся спортам, стаў майстрам спорту па баскетболе. Службу праходзіў у Расіі — на Чукотцы (Анадыр), на Украіне, а потым вярнуўся ў родную Беларусь. Служыў добра, бо мае медалі былога Савецкага Саюза. Праўда, да пенсіі даслужыцца не паспеў: калі Байрашэўскаму споўнілася 40 гадоў, яго ў званні маёра звольнілі са Узброеных сіл СССР.

Пасля звальнення Сулейман Байрашэўскі прыехаў у Слуцк, дзе працаваў інжынерам спарткомплексу. Але праз год вярнуўся ў родны Слонім, дзе пэўны час узначальваў спарткомплекс горада, потым быў намеснікам дырэктара школы.

## Мусульманскае таварыства

У 1992 годзе Сулейман Мацвеевіч арганізаваў у Слоніме мусульманскае рэлігійнае таварыства і стаў яго кіраўніком, а больш канкрэтна — аднавіў праз 48 гадоў.

Як кіраўнік мусульманскай абшчыны, ён найперш звярнуў увагу на добраўпарадкаванне мусульманскіх могілак, якім 300 гадоў. Могілкі знаходзяцца ў лясным масіве на адлегласці каля пяці кіламетраў ад горада. Займаюць яны плошчу 2,7 гектара зямлі. Сярод памерлых слонімцаў-мусульман там ёсць шмат магіл вайскоўцаў-мусульманаў, якія служылі ў рускай арміі і загінулі альбо памерлі ад атрыманых ранаў падчас Першай сусветнай вайны. Гэтыя вайскоўцы былі родам з Уфінскай, Казанскай і Самарскай губерняў Расіі.

На могілках паспелі тады паставіць агульны помнік-абеліск. А на кожнай магіле цяпер зроблены пліты з пазначэннем прозвішча, імя і палка, дзе той служыў, і інфармацыі, з якой губерні паходзіць вайсковец. Усё гэта, дзякуючы Сулейману Мацвеевічу і іншым мусульманам, падтрымліваецца ў належным стане і сёння. Праўда, некалькі разоў вандалы шкодзілі помнікі, разбівалі, пераварочвалі. Але прыходзілася іх аднаўляць зноў.

Па словах Сулеймана Байрашэўскага, у першай палове ХХ стагоддзя і да пачатку Другой сусветнай вайны, у Слоніме ўсе дзеці мусульман навучаліся рэлігіі ў слонімскай мячэці ў Сулеймана Шчэнсновіча. А жаўнеры-мусульмане прымалі прысягу на Каране. З адстаўных жаўнераў-мусульман быў створаны атрад стралкоў, якім камандаваў адстаўны маёр Войска Польскага Давід Яновіч-Чаінскі. Маёр Чаінскі быў арыштаваны НКУС і ў 1940 годзе расстраляны пад Мінскам. Яго жонку з дзвюма маленькімі дочкамі вывезлі ў Сібір. Наогул, у Сібір у 1939–1949 гады бальшавікамі былі вывезены са Слоніма 20 заможных сем'яў мусульман, 24 чалавекі. Чацвёра з іх памерлі з голаду на высылцы, а астатнія лёс раскідаў па розных краінах свету. Чатыры слонімскіх мусульманіна загінулі ад рук немцаў — сям'я адваката Багдана Шэгідзевіча.

> У 1992 годзе Сулейман Мацвеевіч арганізаваў у Слоніме мусульманскае рэлігійнае таварыства і стаў яго кіраўніком, а больш канкрэтна — аднавіў праз 48 гадоў

Сёння Сулейман Байрашэўскі ўсё робіць, каб памяць пра знакамітых слонімскіх і беларускіх мусульман на Бацькаўшчыне ўшаноўвалася. У жніўні 1994 года ў Слоніме быў праведзены Міжнародны з'езд татараў, на які прыехалі госці з Англіі, ЗША, Польшчы, Расіі і з іншых краін свету, а таксама з розных куткоў Беларусі.

Імам-старшыня аб'яднання мусульман Слонімшчыны Сулейман Байрашэўскі ніколі не сядзіць без справы. У 1996 годзе ён выдаў малітоўнік для мусульман, напісаны кірыліцай. Пачаў рэстаўрыраваць Караны, якім па 100 і болей гадоў. Выдаў малітоўнік арабскім шрыфтам. Усе гэтыя выданні сталі настольнымі кнігамі ў дамах мусульман не толькі Беларусі, але і за яе межамі.

Тры гады Сулейман Байрашэўскі за свае ўласны грошы выдаваў газету «Нур-свет», якая распаўсюджвалася ў 18 гарадах Беларусі. Ён і зараз жадаў бы яе выдаваць, але не хапае на гэта сродкаў.

## Проста добры чалавек

Імя Сулеймана Байрашэўскага цесна звязана і з дэмакратычным рухам на Слонімшчыне. Ён заўсёды наведваў розныя мерапрыемствы, семінары, сустрэчы. І калі слонімскіх грамадскіх актывістаў выганялі з памяшканняў, не давалі іх пад арэнду, Сулейман Байрашэўскі клікаў усіх да сябе ў мячэць. Нават заклік у сланімчан узнік такі: усе — у мячэць! І там шмат разоў праводзіліся і семінары, і сустрэчы, і канферэнцыі. Цяпер час змяніўся, ды і не так актыўна сёння наладжваюцца тыя ж семінары і канферэнцыі, асабліва звязаныя з гісторыяй роднай Беларусі.

Па-ранейшаму, Сулейман Байрашэўскі шмат увагі аддае добраўпарадкаванню мусульманскіх могілак. Амаль штотыдзень наведвае іх, аглядае, прывозіць на экскурсію гасцей з іншых краін, наладжвае мерапрыемствы па ўшанаванні ўсіх тых, хто загінуў падчас розных войнаў.

А аднойчы, калі ён вяртаўся па лясной дарозе дамоў на скутары, убачыў дзвюх дзяўчынак. Узяўшыся за рукі, малыя крочылі проста яму насустрач. «Куды вы ідзяце, дзяўчаткі?» — спытаўся Сулейман Мацвеевіч. «У Слонім», — адказалі дзеці. «Але Слонім знаходзіцца зусім у іншым баку. Ці не заблукалі вы?» — пацікавіўся дарослы.

Дзяўчынкі сапраўды заблукалі і ўжо паўтары гадзіны хадзілі па лесе, шукаючы дарогу на Слонім. Разам з бацькамі яны прыехалі на дачу. Калі бацькі працавалі, дзеці вырашылі нарваць лясных кветак для сваіх матуль. Збіраючы кветкі, малыя заблукалі, адной з іх было пяць гадоў, другой — тры. Сулейман Мацвеевіч напаіў іх вадой, пасадзіў на скутар і накіраваўся ў Слонім. Па дарозе ён сустрэў нарад міліцыі, які ўжо даўно шукаў дзяцей. У суправаджэнні міліцыянераў дзяўчынак вярнулі іх бацькам.

У 2009 годзе Сулейман Байрашэўскі здзейсніў Хадж у Мекку. Дый за сваё жыццё шмат дзе быў, пабачыў і шмат з кім сустракаўся, гутарыў, працягвае сябраваць. «Але лепш за ўсё дома», — кажа Сулейман Мацвеевіч.

▸ **АЛІМПІЯДА**

# АГОНЬ, СНЕГ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ



Антон МАРТЫСЕВІЧ

**11 лютага ў суверэннай Беларусі з'явіўся сямнаццаты алімпійскі чэмпіён. Эфектны фініш біятланісткі Дар'і Домрачавай у гонцы пераследу на зімовых Алімпійскіх гульнях у Сочы стаў падставай для радасці мільёнаў беларусаў і нечаканай іміджавай праверкай для кіраўніка дзяржавы.**

Бліскучая і вельмі прыгожая перамога ў гонцы пераследу не была сенсацыяй: Дар'я — адзін з лідараў сусветнага біятлона, у мінулым ужо заваёўвала медалі Алімпіяды і выйгравала званне чэмпіёнкі свету. На сёння Домрачава — самая хуткая біятланістка ў свеце, за што нават атрымала мянушку «беларуская ракета», і толькі не вельмі дакладная стральба робіць яе нячастым госцем на верхняй прыступцы п'едэстала.

Але ў Сочы здарыўся маленькі цуд — у кожнай з першых дзвюх гонак Даша дапусціла ўсяго па адной памылцы, што ў канчатковым выніку і дазволіла ёй выйграць золата з вялікім адрывам ад канкурэнтак.

За некалькі тыдняў да спаборніцтваў Аляксандр Лукашэнка публічна раскрытыкаваў Домрачаву за адсутнасць барацьбы падчас аднаго з этапаў Кубка Свету. А прыляцеўшы ў Сочы, наведаў трэніроўку біятланістаў, пасля чаго літаральна напярэдадні першага старту запрасіў усю жаночую зборную піць гарбату і пачаў даваць парады па стральбе, чым выклікаў хваляванне ў многіх заўзятараў за вынік — бо падвышаны ціск перад стартамі, як правіла, не прадказвае нічога добрага.

«Нічога добрага» і адбылося на наступны дзень, калі ў спрынце Даша, нібы трымаючыся парады прэзідэнта «не мітусіцца пры стральбе», страціла зашмат часу на агнявых рубяжах і заняла толькі дзясятае месца, што надзвычай засмуціла яе шматлікіх прыхільнікаў. Да радасці беларусаў, гонка пераследу прайшла для Дашы амаль ідэальна, у чым, па прызнанні чэмпіёнкі, немалая заслуга сэрвіс-брыгады беларускай зборнай, якая ўдала падабрала змазку для лыжаў ва ўмовах снегу, што раставаў ад нечаканай адлігі.

«Чаяванне ў прэзідэнта» здарылася пасля перамогі і транслявалася ў вечаровых навінах усіх беларускіх тэлеканалаў. І гэта быў, мякка кажучы, іміджавы правал для кіраўніка дзяржавы. І справа не ў тым, што ў Сочы ў разгар навучальнага года разам з прэзідэнтам прыехаў малодшы сын Коля. У разгар хакейнага сезону — хакейны трэнер Міхаіл Захараў. І ў разгар будаўніцтва гатэляў да чэмпіянату свету па хакеі — алігарх Юрый Чыж.

І не ў тым, што нечакана пабачылі побач з прэзідэнтам з аднаго боку — праваслаўнага святара з чаркай, а з іншага — жаночую зборную па мастацкай гімнастыцы таксама з чаркамі. Справа ў тым, што для недасведчанага чалавека гэтая тэлевізійная карцінка распівання шампанскага людзьмі ў спартыўных касцюмах на канапе перад багата застаўленым стравамі сталом наўрад ці нагадвала ўшанаванне прэзідэнтам алімпійскай чэмпіёнкі. Гэта было падобна хутчэй да юбілею вясковага настаўніка фізкультуры, на які запрасілі ўсю яго невялікую школу.

Беларускія алімпійскія чэмпіёны атрымліваюць ад дзяржавы не толькі салідны грашовы бонус і, калі пашанцуе, кватэру ў родным горадзе, але і магчымасць у хуткай перспектыве бачыць свой твар на сотнях рэкламных білбордах на чырвона-зялёным фоне. І ніяк інакш — бо яны прадстаўляюць краіну, дзе спорт — гэта палітыка, афіцыйная ідэалогія і спосаб паказаць усяму астатняму свету «кузькіну маці». Алімпійскі чэмпіён Лондана стралок Сяргей Мартынаў у свой час вельмі саромеўся гэтых плакатаў і сціпла радаваўся, што ажыятаж вакол яго рэкордаў і перамогі на Гульнях быў непрацяглым, і ён змог спакойна рыхтавацца да наступных спаборніцтваў.

Дар'і Домрачавай будзе цяжэй. У гэтыя дні яна перажывае надзвычай прыемнае, але вельмі небяспечнае для спартсмена выпрабаванне «меднымі трубамі». Гэты шалёны ажыятаж вакол персоны алімпійскай чэмпіёнкі, увага прэсы і першых асоб дзяржавы зразумелыя, але здарыліся вельмі несвоечасова. У адрозненне ад многіх іншых відаў спорту, біятлон на Алімпійскіх гульнях прадугледжвае некалькі розыгрышаў медалёў для адных і тых жа спартсменаў. Кожныя некалькі дзён наймацнейшыя біятланісты ад кожнай краіны выходзяць на старт у той ці іншай гонцы — спрынт, гонка пераследу, індывідуальная гонка, масстарт, эстафета, змяшаная эстафета.

І вось уявіце сябе на месцы чэмпіёнкі: дзве гонкі за плячыма — яшчэ чатыры наперадзе, галоўныя старты чатырохгоддзя яшчэ не скончыліся, а цябе ўжо бяруць пад рукі, вязуць на дачу да прэзідэнта, уручаюць кветкі і фужэры з алкаголем пад прыцэлам тэлекамер. І гэта свята, ад якога немагчыма адмовіцца, якой бы прафесійнай спартсменкай ты ні была.

Зрэшты, у Дашы хапіла духу і прафесіяналізму адмовіцца ад іншай звабнай прапановы — гонару несці дзяржаўны сцяг на цырымоніі адкрыцця Гульняў. На тэлекамеры была расказана, што Даша палічыла за лепшае ўзняць сцяг, пад якім яна ў выніку першай перасекла фінішную рысу. Але ўся справа ў тым, што Алімпійскія гульні праходзяць у двух населеных пунктах — прыбярэжным курорце Адлеры, дзе пабудаваны Алімпійскі стадыён і некалькі лядовых арэн для хакея, фігурнага катання, кёрлінгу і канькабежнага спорту, і Чырвонай Паляне ў 50 кіламетрах ад Сочы, дзе вакол гарналыжнага курорта раскінуліся цэнтры правядзення спаборніцтваў, якія вымагаюць снегу. І напярэдадні першага старту біятлонная зборная ў поўным складзе вырашыла застацца глядзець цырымонію адкрыцця па тэлевізары, каб не спускацца з сярэднегор'я на ўзровень мора і пазбегнуць небяспечных для фізічных кандыцый перападаў ціску.

У выніку, сцяг нёс алімпійскі чэмпіён Ванкувера фрыстайліст Аляксей Грышын, які спецыяльна для гэтага вымушаны быў перапыніць перадалімпійскія трэніроўкі ў Фінляндыі і прыляцець у Сочы на тры дні раней. Паводле партала TUT.BY, рашэнне па сцяганосцы прымаў асабіста Аляксандр Лукашэнка, які вось ужо 16 гадоў займае пасаду старшыні Нацыянальнага Алімпійскага Камітэта Беларусі.

Існуе меркаванне, што несці сцяг на адкрыцці Гульняў — дрэнная прыкмета. Сам Аляксей нагадвае журналістам, што два гады таму тэнісіст Максім Мірны зняў гэты праклён: вывеўшы беларускую нацыянальную каманду на Алімпійскі стадыён Лондана, праз 9 дзён ён у пары з Вікторыяй Азаранка выйграў першае ў сваёй кар'еры алімпійскае золата.

Медалі сярод акрабатаў, дзе нашы фрыстайлісты з'яўляюцца аднымі з фаварытаў, будуць разыграны ў гэты панядзелак, 17 лютага.

| | пт 14.02 | сб 15.02 | нд 16.02 | пн 17.02 | аўт 18.02 | ср 19.02 | чц 20.02 | пт 21.02 | сб 22.02 | нд 23.02 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Біятлон | ● | | ● | ● | | ● | | ● | ● | |
| Бабслей | | | | ● | | ● | | | | ● |
| Горныя лыжы | ● | ● | ● | | ● | ● | | ● | ● | |
| Кёрлінг | | | | | | | ● | ● | | |
| Лыжнае двубор'е | | | | | ● | | ● | | | |
| Лыжныя гонкі | ● | ● | ● | | | ● | | | ● | ● |
| Скачкі на лыжах з трампліну | | ● | | ● | | | | | | |
| Санны спорт | | | | | | | | | | |
| Скелетон | ● | ● | | | | | | | | |
| Сноўборд | | | ● | ● | | ● | | | ● | |
| Хуткасны бег на каньках | | ● | ● | | ● | ● | | ● | ● | |
| Фігурнае катанне на каньках | ● | | | ● | | | ● | | | |
| Фрыстайл | ● | | | ● | ● | | ● | ● | | |
| Хакей на лёдзе | | | | | | | ● | ● | ● | ● |
| Шорт-трэк | | ● | | | ● | | | ● | | |

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК. Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ. Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 197

Падпісана да друку 14.02.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.